*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай,*
*каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ.*

# наша слова




№ 8 • КАСТРЫЧНІК • 1990 Бюлетэнь Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны. Кошт 20 кап.

## У НУМАРЫ:



## *Да стагоддзя з дня нараджэння Сяргея ПАЛУЯНА*



# ЛІСТ члену Палітбюро ЦК КПСС, першаму сакратару ЦК КПБ тав. САКАЛОВУ Я. Я.

Паважаны Яфрэм Яўсеевіч!

Мы, члены Камісіі Вярхоўнага Савета БССР па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны, заклапочаныя станам падрыхтоўкі кадраў нацыянальнай інтэлігенцыі, звяртаемся да Вас з вялікай просьбай.

У кожнай развітай краіне свету асаблівая ўвага надаецца факультэтам ВНУ, якія рыхтуюць спецыялістаў у галіне нацыянальнай мовы і культуры. Звычайна такі факультэт з'яўляецца «візітнай карткай» суверэннай дзяржавы: па яго становішчы ў першую чаргу мяркуюць аб агульным узроўні культуры народа. На вялікі жаль, Беларусь гэтым пахваліцца не можа. Так, аддзяленне беларускай мовы і літаратуры БДУ імя У. І. Леніна ўжо колькі дзесяткаў гадоў месціцца ў будынку, які зусім не адпавядае ролі і значэнню гэтай навучальнай установы. Цесната неверагодная, каторы год прафесары і выкладчыкі вымушаны прымаць залікі на калідорах, а то і за межамі гэтага навучальнага корпуса. І наогул сам корпус ніяк не нагадвае, што гэта галоўная кузня нацыянальных філалагічных кадраў. Паспешнае рашэнне аб перадачы філфаку БДУ больш чым сціплага будынка па вуліцы Захарава не можа лічыцца сур'ёзным.

Таму дзелімся з Вамі меркаваннем наконт таго, што было б вельмі справядліва і па-дзяржаўнаму мудра, калі б ЦК КПБ знайшоў магчымым перадаць філалагічнаму факультэту БДУ корпус, у якім сёння знаходзіцца Інстытут гісторыі партыі пры ЦК КПБ, або які-небудзь іншы падведамасны партыі выдатны будынак у цэнтры горада. У такім разе Інстытут гісторыі партыі мог бы размясціцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР або ў Вышэйшай партыйнай школе. Такое вырашэнне пытання вельмі паслужыла б справе развіцця нацыянальнай культуры і мела б выключна станоўчы рэзананс у шырокіх колах навуковай і творчай інтэлігенцыі, усёй грамадскасці рэспублікі.

**Н. С. ГІЛЕВІЧ,**
**Л. П. БАРШЧЭЎСКІ,**
**А. А. ТРУСАЎ,**
**Я. А. ЦУМАРАЎ.**

# З адказу ЦК Кампартыі Беларусі народным дэпутатам

Идеологический отдел ЦК КПБ согласен с мнением авторов письма о том, что условия, в которых находится филфак Белгосуниверситета, не могут быть признаны удовлетворительными. Его здание по ул. Красноармейской имеет всего 4422 кв. метра общей полезной площади, в том числе учебно-научной — 3319 кв. метров, а занимается здесь 1375 студентов.

...Решение состоит не в поиске неприспособленных в общем площадей, а в радикальном изменении отношения к проблемам университета в целом. Бюро ЦК КПБ своим постановлением от 12 августа 1987 г. признало неудовлетворительным состояние дел с развитием материально-технической базы БГУ им. В. И. Ленина. Было отмечено невыполнение принятых ранее на этот счет решений.

По инициативе ЦК КПБ Советом Министров БССР 30 сентября 1987 г. утверждены мероприятия по ускоренному развитию университета. Ими предусматривалось строительство в 1987—1995 гг. в районе д. Щемыслицы нового городка Белгосуниверситета, других объектов общей стоимостью более 10 млн. рублей. Однако, как отмечали Секретариат и Идеологическая комиссия ЦК КПБ, рассматривавшие в 1989 году ход выполнения принятых решений, отношение исполнителей, несмотря на дававшиеся заверения, не изменилось по существу. Улучшения положения дел не произошло и в последующем.

...В свете изложенного полагали бы целесообразным рекомендовать Комиссии по образованию, культуре и сохранению исторического наследия Верховного Совета БССР взять под свой контроль выполнение программы строительства БГУ им. В. И. Ленина, поставить соответствующий вопрос перед Совмином республики.

Именно ведущий университет в целом должен быть «визитной карточкой» республики. Между тем обеспеченность его площадями сегодня составляет всего 56 процентов от норматива, а строительная программа этого года выполнена только на треть.

Что касается здания Института истории партии при ЦК КПБ, то в нем размещаются также райкомы КПБ и ЛКСМБ Октябрьского района, передавшие ранее свои помещения республиканской бибилотеке им. В. И. Ленина.

**Ад рэдакцыі.**

Наіўныя аўтары ліста! Захацелі, каб у Беларусі «візітнай карткай» рэспублікі стаў факультэт беларускай мовы і літаратуры. Ды каб яшчэ ЦК КПБ выдзеліў для гэтага які-небудзь прыгожы будынак у цэнтры сталіцы. Вунь наставілі пачварных «карабкоў» за Мінскам, у Шчомысліцах, назвалі іх беларускім універсітэтам, — будзе калі-небудзь там гэтакі «карабок» і для філфака — галоўнай кузні кадраў нацыянальнай духоўнасці. А ў самых выдатных, прыгожых і раскошных будынках у цэнтры горада будзем сядзець мы, нашы камітэты, нашы ідэалагічныя фірмы... Клопат пра развіццё беларускай мовы і культуры быў шчырым клопатам ЦК партыі ў далёкія 20-я гады, а сёння... ну, няўжо вы яшчэ не зразумелі і ўсё яшчэ на нешта спадзяецеся?..

# *Амерыканскія сустрэчы*

З першага па трэцяга верасня ў Кліўлендзе праходзіла 19-я Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амерыкі. На ёй амерыканскія і канадскія суайчыннікі гаварылі пра тое, як найлепш дапамагчы Беларусі вырашыць шмат якія праблемы, а таксама прынялі рэзалюцыю.

## РЭЗАЛЮЦЫЯ 19-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Кліўлендзе!

Мы, удзельнікі 19-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, зьехаўшыся са Злучаных Штатаў, Канады, Беларускай ССР, Беласточчыны, Віленшчыны, Англіі, Францыі, Заходняй Нямеччыны ў беларускае селішча Полацк у горадзе Кліўлендзе, штат Агаё, ЗША, заслухаўшы прывітаньні ад Прэзідэнта Джорджа Буша, Кангрэсу Злучаных Штатаў, прадстаўнікоў мясцовых уладаў ды беларускіх арганізацыяў, выслухаўшы выступленьне кангрэсмэнкі Мэры Роўз Оўкер, урачыста дэкляруем:

1. Рабіць захады, каб дзяржаўныя і прыватныя сэктары заходніх краінаў аказалі гуманітарную дапамогу пацярпелым ад чарнобыльскай радыяцыі на Беларусі, як

Заканчэнне на 10-й стар.

***ЗАКОНУ ПРА МОВУ ЖЫЦЬ І ДЗЕЙНІЧАЦЬ***

# Перамены на дарогах?

Год ад году на дарогах Беларусі адбываюцца немалыя перамены. Тое, пра што яшчэ гады чатыры таму назад службоўцы з кабінетаў дарожнага ведамства, а з імі і іх вышэйшыя кіраўнікі слухаць не хацелі, сёння настолькі імкліва ўвайшло ва ўжытак, што, здаецца, і забыліся людзі, для чаго тое робіцца. Гаворка ідзе пра ўжыванне на дарожных указальніках беларускіх надпісаў.

Гады два таму назад давялося, хіба, упершыню ўбачыць на Мядзельшчыне ўказальнікі, на якіх большымі літарамі напісана назва па-беларуску, ніжэй меншымі — па-руску. Выкананыя такім чынам указальнікі існуюць, колькі памятаю, на прыбалтыйскіх дарогах, на Львоўшчыне. Такія ж надпісы на дзвюх мовах — па-руску і па-англійску — надаралася бачыць на некаторых міжнародных трасах у Расіі.

Але за апошні год на беларускіх дарогах адбыліся новыя істотныя змены. Па шашы Мінск — Маладэчна — Нарач або Маладэчна — Смаргонь, дзе нядаўна давялося праязджаць, пабачыў дзвюхмоўныя ўказальнікі, на якіх уверсе назва напісана па-руску і ніжэй гэткім жа шрыфтам — па-беларуску. І падумалася: што гэта — даніна «павагі» беларускай зямлі?! Маўляў, наце вам і па-беларуску, адчапіцеся толькі. Але ж хочацца сказаць таму, што аддаў загад рабіць такія надпісы: навошта ж прыніжаць беларусаў? Для каго робіцца пераклад на беларускую мову на Беларусі? Для беларусаў? Дык чыталі ж усе мінулыя гады па-руску і не памыляліся. Зрэшты, беларусы некалі чыталі і па-польску. Пазней была зроблена спроба змусіць чытаць нас па-нямецку.

Надзвычай недарэчным выглядае на Беларусі пераклад на беларускую мову. І атрымоўваецца як у той прымаўцы: дазвольце мне, гаспадару, у сваёй хаце пад лаўкаю паначаваць. Выканаўцы ж аднаго з указальнікаў на скрыжаванні пад Вілейкай пайшлі яшчэ далей. Зверху вялікімі літарамі напісана «Вилейка» і «Полоцк» (адпаведна, стрэлкамі паказана направа і налева) і пад імі маленькімі літарамі — «Вілейка» і «Полацк». Свядома ці не, чарговы раз была прыніжана годнасць беларусаў, чарговы раз нам паказалі, што на сваёй зямлі мы не гаспадары. Праўда, загад на выкананне такіх указальнікаў аддаваў, верагодней, беларус. І выконвалі іх беларусы. Тым самым нашы суграмадзяне ў чарговы раз выявілі сваю сарамяжнасць. Калі ж быць шчырым да канца, то ў такім падыходзе да выканання дарожнага ўказальніка яшчэ раз выявілася рабская натура чалавека. І гэта пасля прыняцця «Закона аб мовах у Беларускай ССР»! Блізка дваццаць гадоў мінула з тае пары, калі Вядзьмак Лысагорскі пісаў: «Быў час, быў век, была эпоха...» Каторае стагоддзе разменьвае чалавецтва з часу, калі рымляне ўздыхалі: «O tempora, o mores!» Але сказана ўсё тое нібы сёння.

Гаворачы пра дзвюхмоўныя надпісы на дарожных указальніках, нельга не спыніцца на правільнасці перакладу назваў. Дакладней — на іх няправільнасці. Непадалёк ад Смаргоні чытаю на ўказальніку: «Белое» «Белая». Што можа быць Белое — возера (озеро)? Але ж гаворка ідзе пра вёску Белую (Белая), назва якой і па-руску гучыць Белая (деревня). Праз кіламетраў 10 ад Мядзеля на беразе Нарачы знаходзіцца вёска Пасынкі. Указальнік жа пры павароце дарогі да яе сведчыць, што тут знаходзіцца вёска Пасынки Пасанкі. Чаму верыць? Гэткі ж разнабой адбыўся і пры напісанні назвы вёскі Сіманы» Симоны Сымоны. Бліжэй да Мядзела пры перашыйку паміж Мястрам і Нараччу на ўказальніку напісана: Мікольцы Никольцы. І тут жа побач на шыльдзе аўтобуснага прыпынку «Нікольцы». Неадпаведнасць напісання назвы вёскі ў беларускім і рускім варыянтах давялося пабачыць на шашы Ленінград — Адэса паміж Оршаю і Шкловам: Забродзе Забродье. І гэта, падобна, не адзінкавыя выпадкі.

Нельга таксама ўтрымацца, каб не закрануць страту некаторых з геаграфічных назваў за мінулыя гады па Беларусі. Пытанне адраджэння ранейшых вартасцёвых назваў неаднаразова падымалася ў рэспубліканскім друку. І ўсё ж... Гаворка пойдзе пра тапанімічныя перамены на Мядзельшчыне. Цяпер, наведваючыся зрэдзьчасу ў родныя мясціны, з сумам адзначаю перамены, якія там адбываюцца. Чаму з сумам? Бо не дужа ўдумліва ставяцца мае земляки да сваёй мінуўшчыны.

Гадоў 25 таму назад на карце Мядзельскага раёна замест пасёлка Купа з'явіўся курортны пасёлак Нарач. А размешчаную за 4 кіламетры ад яго вёску Кабыльнік пачалі называць... Нарач. У Мінску часам чую: «Паеду на Нарач», што можа адзначаць «у санаторый «Нарач», «у дом адпачынку «Нарач», «у калгас «Нарач», «на рыбзавод «Нарач», «у вёску або пасёлак «Нарач»... У ваколіцах возера цяпер з дзесятак назваў Нарач. У Мядзелі ж шмат хто з мясцовых жыхароў па даўняй звычцы замаўляе білет на аўтобус да Купа або Кабыльніка. У крайнім выпадку кажуць: «Да санаторыя». У гутарковай мове тыя перайменаванні, як відаць, не прыжываюцца. Нават людзі, якія не ўяўляюць яшчэ пра існаванне гэтага мноства Нарачаў, падсвядома гавораць якраз пра возера. Бо можна паехаць на возера Нарач, але ж — у вёску або пасёлак Нарач, у калгас «Нарач», у санаторый або дом адпачынку «Нарач». Дарэчы, шмат хто з прыезджых, пажыўшы які час у ваколіцах Нарачы, для зручнасці і разабраўшыся ў тамтэйшай тапаніміцы ды гідраніміцы пераходзіць на ранейшыя назвы — Купа, Кабыльнік.

А вось і нядаўняе перайменаванне. Летась раптам даведаўся, што на Мядзельшчыне ёсць вёска Рамашкі (!). Дзе ж яна? Чаму не чуў раней? Высветлілася, што так цяпер завецца колішняя вёска Гарбы. Спрадвечная назва, бачыце, не да густу была старшыні мясцовага калгаса. Няхай сабе і не ўлічваў перайменавальнік, што назву населены пункт атрымаў з-за асаблівасцяў ваколнага рэльефу — пагоркі ды лагчыны, што і адбілася на назве. Але з чаго ж узнікла найменне Рамашкі? Ці не паўплывала тут засмечанасць гэтым пустазеллем калгасных палёў? Пра кветку ж на Беларусі кажуць «рамонак» (Рамонкі).

І ўжо зусім блізка ад Мядзела, а, як на цяперашні час, то й у самім раённым цэнтры, думаецца, беспадстаўна знікла назва вёскі Навасёлкі. Нядаўнюю бруканку, што вяла да яе, заасфальтавалі. Па абодва бакі разбудаваліся дабротныя сядзібы. І стала вясковая вуліца вуліцай імя Бычка ў гарадскім пасёлку. Ніхто, зразумела, не супраць увекавечання памяці пра юнага партызана, які насіў гэта прозвішча. Толькі, калі ўжо выпала вяскоўцам «перасяліцца» ў раённы цэнтр, то чаму б не захаваць памяць пра колішнюю вёску ў назве вуліцы Навасельскай. Ці ўспомніць з іх хто праз гады, што назва вёскі ўзнікла, відаць, яшчэ ў тыя часы, калі на Беларусі праводзілася валочная рэформа і продкі іх сяліліся з большых і меншых вёсачак, хутароў на новае месца, якое і назвалі Навасёлкі. Непадалёк, на ўскрайку лесу, археолагі знайшлі сляды паселішчы, якое перапыніла сваё існаванне, мяркуючы па знаходках, якраз у перыяд правядзення валочнай рэформы.

Здавалася б, дробязь. Якая розніца, як напісана назва населенага пункта? Ці так ужо важна, як завецца нейкая вёска ці пасёлак? Жыццё няўхільна ідзе наперад. Мяняюцца людзі. Мяняецца аблічча зямлі... Толькі гісторыя застаецца нязменнай. Назвы паселішча, ракі, урочышча — гэта наша гісторыя. За кожнай з іх пэўныя падзеі, людзі, іхнія справы. Яны былі, пакінулі на гэтай зямлі большы ці меншы след. Па назвах, па нашым стаўленні да іх, нават па выбраным шрыфце, якім напісана назва, прыезджыя людзі мяркуюць пра нашы патрыятычныя ды і маральныя якасці. А гэта пры актыўных міжнародных узаемадачыненнях немалаважна.

Людзям жа мясцовым надпіс на дарожным указальніку (ды і не толькі на ім) гаворыць, што жывуць яны на сваёй зямлі, да якой павінны ставіцца з асаблівым клопатам. Кожнаму з нас павінна быць неабыякавым, па якіх вуліцах мы ходзім, якія прадукты спажываем, якім паветрам дыхаем. Многія праблемы могуць вырашыць людзі-гаспадары. Стаць такімі можна, у тым ліку, і з дапамогай роднай мовы на дарожным указальніку, ацалелай тапаніміцы. Працэс гэты не матэрыяльны. На зуб яго не паспытаеш. Але ж прыклад нашых далёкіх і блізкіх суседзяў пераконвае ў неабходнасці ўдумліва яго праводзіць.

Сёння, ёсць надзея, адносіны да назваў на нашай зямлі можна істотна змяніць. З 1 верасня 1990 года ўступіў у дзеянне Закон БССР «Аб мовах у Беларускай ССР», артыкулы 2, 31 і 34 якога надаюць прыярытэтнасць беларускім надпісам, у тым ліку і на дарожных указальніках. Гэтага ж вымагае і Дэкларацыя Вярхоўнага Савета Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі «Аб дзяржаўным суверэнітэце Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі» (артыкул 9). Цалкам можна пагадзіцца з Міколам Ляшчуном, які піша ў артыкуле «Каб стаць паўнапраўным народам» (Наша слова. 1990. № 5. С. 2) пра неабходнасць актывізацыі высілкаў сяброў ТБМ па рэалізацыі патрабаванняў артыкулаў рэс-

*(Заканчэнне на 9-й стар.).*

# БЕЛАРУСКІ ПРАВАПІС: ПРАЦЯГ РЭПРЭСІЙ

*Славянские ль ручьи*
*сольются в русском море?*
*А. С. ПУШКИН.*

Гэткімі словамі вялікі паэт вітаў здушэнне паўстання ў 1831 годзе на нашых землях. Праз сто гадоў яны, словы гэтыя, не страцілі свайго пачатковага сэнсу, у прыватнасці, рэформа правапісу 1933 года не проста заклала падваліны адбеларушанню мовы — было падсечана яе карэнне, пераведзены стрэлкі арыентацыі: з народнай асновы на рускамоўную. Моўныя законы былі патаптаны, а на руінах усталяваліся камуністычныя догмы. За зменамі ідэалагічных шыльдаў усчынаўся і моўны ператрус. Калі ў 20-я гады алфавіты аж 70 моў злацінізавалі ў імя сусветнай рэвалюцыі (Луначарскі нават стаяў за лацінізацыю рускай), дык пад канец 30-х іх жа прынеслі ў ахвяру «новай гістарычнай супольнасці — савецкага народа», перавёўшы на рускую графіку. Па краіне пакаціўся вал русіфікацыі. Яе ўзмоцніла пастанова ЦК ВКП(б) і СНК СССР ад 13.III.1938 г. «Аб абавязковым вывучэнні рускай мовы ў школах нацыянальных рэспублік і абласцей», якая заважыла не толькі на лёсе нашага школьніцтва. Да прыкладу, у рэзалюцыі XVII з'езду КП(б)Б (1938) чытаем: «Практычна паставіць і вырашыць пытанні далейшага развіцця беларускай мовы, ліквідаваць вынікі шкодніцтва ў галіне літаратурнай мовы». Яшчэ выразней выказалася I сесія Вярхоўнага Савета БССР: «Руская мова па праву з'яўляецца дзяржаўнай мовай нашай рэспублікі». Не абмінуў гэты лёс і правапісу.

Вось жа менш чым праз месяц пасля памянёнай пастановы з'явіўся ў друку праграмны артыкул К. Гурскага «Аб беларускім правапісе» («Звязда ад 9.IV.1938). Запрашаючы да дыскусіі, рэдакцыя газеты паклала націск на тым, што гэтае пытанне набывае актуальнае палітычнае значэнне. Навуковы сакратар Інстытута літаратуры і мовы АН БССР давёў да ведама: створана камісія (у складзе Інстытута і Наркамасветы) для падрыхтоўкі праекта новага правапісу, мэта — канчаткова ачысціць беларускую мову ад варожага шкодніцтва. Найвялікшую шкоду, вядома ж, зрабіла яшчэ акадэмічная канферэнцыя 1926 года («нацыянал-фашысты»). Гэта яны апрацавалі правапіс у супярэчнасці з жывой народнай мовай, бо... адарвалі яе ад рускай, узвялі бар'ер між імі ў правапісе — гэтак званы фанетычны прынцып, аканне. Але на гэтым не канец: «Рэформа (1933 года. — Я. В.) павінна была ачысціць беларускі правапіс ад усяго таго, што было ўнесена ў яго фашысцкімі наймітамі. Аднак сядзеўшыя ў акадэміі і ў кіруючых органах рэспублікі ворагі народа скарысталі сваё становішча, каб яшчэ раз нашкодзіць у гэтай справе, у выніку не толькі не была зроблена сапраўдная ачыстка беларускага правапісу, а наадварот, пад выглядам паправак зноў працягнулі ў правапіс цэлы рад шкодных і варожых скажэнняў і ў цэлым радзе месц яшчэ раз заблыталі яго». Вось яны, чарговыя ворагі на мовазнаўчым фронце! Маглі ды не збурылі апошнія «штучныя бар'еры». Аканне ж неўласціва жывой народнай мове, а найгалоўнае — яно псуе пісьменнасць вучняў на рускай мове, перашкаджае яе вывучаць. Гэткім жа спосабам была абгрунтавана і «шкоднасць» канчаткаў: навошта ж пісаць *арцеляў*, калі па-руску пішуць *артелей*. І К. Гурскі заклікаў «рашуча і да канца выкарчаваць рэшткі шкодніцтва ворагаў народа», а фанетычны прынцып у напісанні галосных змяніць на марфалагічны (пісаць *вода, голова*).

Заклік быў падхоплены з адзінадушным «адабрам». Агульную думку дыскутантаў можна звесці да назвы допісу чырвонаармейца Р. Ф. Бабыра — «Усё шкоднае павінна быць выкінута». Выкідваліся прыстаўныя галосныя, канчаткі *-у* назоўнікаў у родным склоне і інш. Прапаноўвалася ж пісаць: *соцыялізм, перыод, два чалавека*, дзеясловы з абавязковым суфіксам *-ір- (аналізіраваць)*; рэкамендавалася перанесці марфалагічны прынцып і на правапіс зычных. І вось голас у дыскусіі ўзяў і дырэктар Інстытута — В. Барысенка. У артыкуле «Аб праекце рэформы беларускага правапісу» («Советская Белоруссия» ад 16.11.1939), вытрыманым у духу інтэрнацыяналізму ды моўнага збліжэння, ён паўтарыў і падмацаваў сваёй пасадай знаёмыя нам матывы, спецыяльна зазначыўшы: аканне ў беларускай мове не мае ані навуковай, ані фактычнай асновы. Аснову ж гэтую мець можа толькі марфалагічны прынцып. А гэтыя прапановы, на яго погляд, будуць глыбей і паўней адлюстроўваць асаблівасці жывой беларускай мовы — напісанні накшталт *братскі, русскі, одэсскі, дзірэктар*. Каб усё «правільна» вырашыць, В. Барысенка паставіў пытанне аб стварэнні спецыяльнай урадавай камісіі.

Зноў замільгала па газетных старонках: выкінуць *ў*, апостраф замяніць ъ, пісаць *переездны, карыстны, чырвоный, сіній;* замацаваць суфікс *-іва- (-ыва-)* у дзеясловах, форму інфінітыва з *-сь*.

Тым часам «Літаратура і мастацтва» забіла ў трывожны звон. Менскі настаўнік Н. Варанецкі ў сваім крытычным артыкуле паставіў усё з галавы на ногі: ворагі — тыя, хто збудаваў сцяну паміж беларускай народнай мовай і яе літаратурнымі нормамі, а не тыя, хто аддзяляў яе ад рускай. Стаўшы на абарону акання, іншых моўных асаблівасцяў, ён зрабіў закід К. Гурскаму і В. Барысенку ў беспадстаўнасці і адсутнасці навуковага абгрунтавання іхняй пазіцыі. Громам з яснага неба прагучалі і мацнейшыя словы. М. Лынькоў: «Ад самай калыскі, можна сказаць, акая наша нацыя і хоць бы што. Кажуць нават, што гэта — адна з галоўнейшых асаблівасцей беларускай мовы. Але Угрум-Бурчэеву гэта не да спадобы: — Зачым? Наакаліся, даволі, хопіць...» Р. Лынькоў: «...работнікі гэтага інстытута не так даўно выступалі ў друку з «архірэвалюцыйнай», а па-просту — бязглуздай прапановай аб неабходнасці уніфікацыі беларускага правапісу з рускім, аб скасаванні т. зв. «акання» — этымалагічнай асновы нашай мовы! Не цяжка здагадацца, што гэта «ідэя» магла зарадзіцца ў вучоным ведамстве акадэміі толькі дзякуючы поўнаму адрыву адказных за гэта ведамства людзей ад задач, дыктуемых жывой рэчаіснасцю».

З абагульненнем вынікаў дыскусіі зноў выступіў К. Гурскі, які пазнаёміў і з распрацаваным Інстытутам праектам паправак. Паводле гэтага праекта аканне захоўвалася, але перад націскам пісалася *е (несу́, везу́)*. Уводзіліся спалучэнні *іа, іо (біологія), тс (студэнтскі)*, дадатковае *с (русскі)*, абавязковы суфікс *-ір- (мантіраваць)*, напісанні тыпу *телефон, акрэдітіў* і інш. Канчатак *-у* назоўнікаў у родным склоне пакідаўся толькі ў значэнні часткі *(кіло цукру)*, ва ўсіх іншых выпадках мела быць *-а (вытворчасць цукра)*. Інакш кажучы, беларускі ручай зліваўся з рускім морам.

СНК БССР была створана правапісная камісія ў наступным складзе: К. В. Гораў (прэзідэнт АН БССР), Янка Купала, Якуб Колас, М. Лынькоў, П. Глебка, М. Клімковіч, В. Барысенка, К. Гурскі, Е. Калубовіч (работнік Наркамасветы), І. Шахоцька (выкладчык). 10 верасня 1940 года «Звязда» паведамляла, што праект у асноўным падрыхтаваны і будзе апублікаваны ў друку для абмеркавання грамадскасцю. На 15 лістапада яго павінны ўжо былі перадаць на разгляд у СНК БССР. Але абяцанкі засталіся цацанкамі. Праект у друку не з'явіўся, і след па ім на гэтым губляецца. Найхутчэй, што з нейкіх прычын яго адклалі на лепшы далейшы час, бо знаёмыя пункты мы зноў бачым у праекце правапісу 1952 года.

Апісаная ж дыскусія, апрача ўсяго іншага, кідае яскравы сноп святла і на рэформу 1933 года, з'яўляючыся лагічным працягам лініі на зліццё нацый ды моў, вынарадаўленне беларусаў. Вялікі ўжо час расчысціць завалы на гэтым цярністым шляху. Глянуць на беларускі правапіс з боку яго адпаведнасці жывой народнай мове. Вярнуць стрэлкі яе арыентацыі не толькі ў правапісе, але й на іншых дзялянках моўнай сістэмы, якія ўжо даўно з'ядае эрозія, нашэсце русізмаў.

**Янка ВОЙНІЧ.**

СЯРГЕЙ ПАЛУЯН

# З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

I

Цяпер ужо можна гаварыць і пра нашае жыццё. Доўга мы спалі, доўга ціхімі крокамі набліжаліся да ідэі нацыянальнага вызвалення і... набраліся-такі сіл для вытварэння ўласнага нацыянальнага жыцця. Але гэтае беднае жыццё ўжо з першых часоў пачынае адхіляцца ад пуціны нармальнага развіцця нашае нацыі.

На першы план вылязае вечна старое і вечна новае пытанне пра мову нашу беларускую. Не цяпер толькі пачалі гаварыць аб ёй. Яшчэ ў 1891 годзе наш пясняр Багушэвіч падняў свой голас на яе абарону і першы голасна загаварыў «аб нашай бацькоўскай спрадвечнай мове». Даў перасцярогу народу: «Не чурайцесь жа мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі».

Шмат часу прайшло ад таго. Шмат чаго перажылі мы за той час. Назбіралі шмат сіл, залажылі газету. Да нашых слоў ужо прыслухваецца грамада чытацеляў. Назбіралася нямала і супрацоўнікаў у газеце. Увесь гэты народ ужо мог бы пачаць барацьбу за ўжыванне нашае мовы не толькі на паперы, а і ў грамадскім жыцці.

Але, паклаўшы руку на сэрцы, ці ўсякі з нас можа сказаць, што ён шануе яе? Не! Яшчэ не зглядзіўся векавечны праклён над ёю. Яшчэ многія думаюць, што ў ёй калі і можна пісаць, то хіба толькі якіясь смешныя рэчы, на пацеху людзям. Не могуць яны падняцца да таго, каб і сваю мову людской лічыць, не хавацца з ёю па хатніх кутках, а ў свет шырокі вынасіць.

Калі мы паставілі сабе мэту адрадзіць наш народ на нацыянальнай глебе, то нам у першую чараду трэба адрадзіць сваю мову. Толькі тады ў нас будзе якоесь асобнае нацыянальнае жыццё, бо асобная мова — гэта і ёсць форма нацыянальнай асобнасці. Толькі адрадзіўшы мову мы зможам паставіць на цвёрды грунт наш рух. Бо нацыянальны рух, як вялікая жыццёвая гістарычная сіла, можа жыць толькі тады, калі пад яго будзе падведзен такі фундамент, як гібка абробленая мова, дый літаратура і навука ў гэтай мове. Тады мы ўжо зможам будаваць на гэтым моцным фундаменце будынак уласнай нацыянальнай ідэалогіі. А кожны зразумее, што пры цяперашніх варунках не можа развівацца наша мова, калі ёй няма месца ў жыцці... Заваяваць ёй месца ў грамадзянстве — вось наша першая неадложная задача.

II

Той раз я пісаў аб цяжкім палажэнні нашай мовы беларускай, занядбанай нашым жа грамадзянствам, казаў, што як найбарзджэй трэба заваяваць ёй месца ў шырокім жыцці. І вось наверх вылазіць пытанне аб крыніцах нашае мовы, аб тых кузнях, у каторых можна было б з мовы вясковага ўжытку, з мовы цёмных сялян выкаваць мову культурнай нацыі: без такой культурнай мовы нельга шырыць і самае культуры. Гэта даводзіць уся наша гісторыя.

Сотні гадоў узгадоўваецца народ наш на чужым грунце, чэрпае ўсё веданне з чужых культур. Валадары народа сотні гадоў навязывалі яму чужыншчыну, хацелі перарабіць яго на свой капыл (...) Народ (...) ні крыху не пасвятлеў, не прыдбаў больш навукі для сябе, бо навуку гэтую падносілі яму ў чужой, малазразумелай для яго мове. А не разумеючы гэтай чужой мовы, забіты беднасцю і непамернай працай, ён усё ж такі глыбока захаваў у сваіх брудных вёсках бацькоўскую мову, карыстаючыся ёю для свайго хатняга ўжытку.

Як навука ў чужой мове да беларуса дрэнна прыстае, то і не можа ён быць асвечаным, бо другой, роднай навукі ў вочы не бачыць. Навучыцца, напрыклад, хлопец чытаць у школе (пэўне, што не па-свайму), прачытае колькі кніжак пасля скончэння навукі, а там, глядзі, ужо і чытаць кінуў. Праз колькі гадоў нават і саўсім граматы забывае або памятае з яе толькі адно — нейкімі дзіўнымі літарамі за паўгадзіны часу напісаць сваё прозвішча. А чаму гэта так бывае? Можа, мы, беларусы, не здатны ні да якой навукі? Ды не ж! Вялікая навука, і нават у нашай роднай мове, панавала калісь на беларускай зямлі, а цяперашняя неахвота да кніжкі ідзе ў нас дзеля таго, што кніжка чужая. Не разумеюць яе збольшкі, а калі хто і разумее, то не гаворыць яна да яго сэрца. Трэба, каб яна была напісана ў той мове, да каторай прывык чалавек, каторая яму жывой здаецца, а не мёртвай, як чужая.

Вось чаму, калі мы хочам падняць наш народ з цемнаты няведання, мы павінны несці яму яго родны свет навукі, не прыбраны ў чужую, хоць часам і пекную, апратку. Трэба прывучаць яго, каб шанаваў сваё роднае, бо толькі той можа шанаваць чужое, хто сваё найперш шануе. Даючы яму нацыянальную асвету, трэба будзіць у ім жаданне свету, бо цёмны яшчэ ён, не можа сам знайсці выхаду з свайго небарачага жыцця.

Трэба падымаць культуру ў народзе, і культуру сваю, беларускую, а гэта і не так лёгка, як здаецца. Мала яшчэ кніжак у нас, выходзіць усяго толькі адна газета. Але мы павінны моцна трымацца за тое, што ўжо маем, шырыць слова беларускае, шырыць думкі беларускія: каб пайшлі яны па курных хатах сялянскіх.

І дзеля гэтага трэба працаваць над адраджэннем і развіццём роднае мовы. Калі цяпер, пасля доўгай паняверкі і здзеку над жывым словам беларуса, надышоў такі час нацыянальнага вызвалення, калі наша мова пачала з'яўляцца ў друкаваным слове, то паказалася, што ў мове нашай не хватае шмат слоў для выказвання патрэбных думак. Прыходзілася вяртацца назад да таго часу, калі на нашай зямлі панавала свая культура, з памятнікаў гэтае культуры прыходзілася браць загубленыя народам словы, каторыя хоць яны і беларускія, але як не ўжываюцца ў бедным штодзённым жыцці народу, дык не могуць быць кожнаму зразумелыя. Нам трэба шмат новых слоў, а пазычаць у суседзяў не надта хочацца; вось і прыходзіцца карыстаць старымі беларускімі словамі.

Але яшчэ болей за гэта, канечне, патрэбна, каб народ наш сам рабіў большую часць работы дзеля збудавання вялікага нацыянальнага гмаху. А для гэтага ён павінен быць больш асвечаным, мусіць умець хоць трохі разбірацца ў розных здарэннях жыцця, адным словам — зрабіцца больш культурным.

Што ж можна зрабіць цяпер у нас, калі няма ні школ беларускіх, ні кніг пад дастаткам, ні ўсяго таго, што патрэбна для навукі? Трэба выкарыстаць як можна лепш хаця тое, што ўжо маем. Напрыклад, трэба, каб больш ішло ў вёску беларускай газеты. Няхай кожны наш чытацель, кожны шчыры прыяцель сваім родным і знаёмым расказвае аб ёй, тлумачыць тую вялікую работу, якую можа яна зрабіць. Чым шырэйшы круг чытацеляў, тым большую вагу мае кожнае наша слова, бо шмат людзей да яго прыслухіваецца, шмат людзей карыстае з невялікай пакуль што скарбніцы духоўнай культуры.

Кожны беларус мусіць шырыць на Беларусі друкаванае слова ў роднай мове. Няхай ён ведае, што і яго праца не прападзе задарма, што і ён уклаў сваю цагліну ў вялізны будынак культурнага багацця народу. І толькі тады, як мы ўсе дружна возьмемся за прасвету ў народнай мове, калі мы дамо яму ўсе патрэбныя для навукі рэчы ў яго мове, калі ў кожным глухім кутку будуць чытаць беларускую кніжку і газету,— толькі тады мы зможам чым-колечы памагчы ў змаганні з беднасцю і цемнатой народнай. Прыбліжаць святлейшыя дні для народа мусіць кожны з нас. Няма пякнейшага назначэння, як набліжэнне праўды і свету. Гэта — святая павіннасць.

III

Год скончыўся... Яшчэ адзін з бязмернага ліку іншых адышоў у мінулае. Для нас, беларусаў, і гэты, як і яго папярэднікі, быў годам цяжкай працы над залажэннем аснаў грамадскага жыцця ў нашым народзе.

Чатыры гады выдаўніцкай работы на Беларусі канчаюцца. Пачаліся яны ціха, непрыкметна залажэннем Пецярбургскай выдаўнічай суполкі. Буйна разлілася рака беларускага друкаванага слова ў часы «Нашай долі» і ўвайшла ў свой звычайны жолаб у «Нашай ніве».

Вясна мінула. Апала паводка. Але абмытая ёй зямля хавае ў сабе сілу плоднасці, пакрываецца маладымі ўсходамі...

А рэчка слова пацякла далей. Шмат цяжкай маруднай працы на яе пуціне. А яна ціха і паволі, непрыкметна робіць сваё. І ніякія перашкоды не затрымаюць ходу цякучай вады.

Увайшло ў свой нармальны жолаб і беларускае жыццё, адна з складкавых часцін жыцця агульналюдскага. Закруцілася кола гісторыі, закруціла з сабой і так доўга ляжаўшую нерухома Беларусь. Беларускі рух пачаўся.

Пачаўся і расце ў нашы часы, на нашых вачах. Ідзе спешная сяўба, раскідаюцца зярняты па ўсяму краю. Дзе-нідзе толькі лопнула і пратыкаецца тонкай зялёнай былінкай раней кінутае ў адзіночку зерне. Рэшта яшчэ чакае сваёй пары. А пакуль што трэба раскідаць усё новае і новае насенне. Мо і кепская доля спаткае яго, мо і зніштожыцца яно нягодай ды сцюдзёным сіверам,— але не сяўцам думаць аб гэтым!

Заканчэнне на 13-й стар.

значаўся тым-та і г. д. Далей гаварылі аб бліжэйшых продках аж да апошніх. Пасля вячэры размова цягнулася да «трэціх пеўняў», апавядаліся прыгоды, характары продкаў, радавыя і звязаныя з родам успаміны і легенды.

Падобна вышэй згаданым дробнашляхецкім дзядам, абходзіліся «дзяды» і ў сялянскіх родах, толькі з большай прымешкай паганскіх перажыткаў. Гэтак рашчынялі напярэдадні дзядоў хлеб і пяклі яго абавязкова на сухіх лістах; калолі парсюка на дзень «дзядоў» і ўрэшце вечар прысвячаўся гутаркам аб дзеях продкаў.

За маёй памяццю, у 1880-х, 1890-х гадах, ужо ў Дзісеншчыне не святкавалі дзядоў родамі, а толькі сем'ямі. У маёй сям'і гэта адбывалася такім парадкам. Напярэдадні дзядоў з самай раніцы жанкі прымаліся за капітальную чыстку хаты і ўсіх гаспадарскіх статкаў. Вечарам уносілі дзяжу, ставілі яе на «крыжох», сярод хаты, пакрывалі чыстым абрусам і садзіліся за стол вячэраць. У час вячэры лічылі «дзядоў», г. зн. прыпаміналі ўсіх памёршых продкаў. У нас налічалі іх да 30-ці. Пасля вячэры рашчынялі «дзядоўскі хлеб» і на другі дзень пяклі столькі бахонкаў, колькі налічылі дзядоў. Раніцай ехалі ў царкву і там раздавалі бахонкі ўбогім, кожнаму па аднаму. Велічыня бахонкаў залежала ад заможнасці сям'і: сем'і багатыя пяклі вялікія бахонкі, а бедныя абмяжоўваліся «бондачкамі» з кулак велічынёй. На вечар бывалі запрошаны бедныя з суседства, чалавек да 10-ці, і пачыналася за агульным сталом вячэра. На вячэру прыгатаўлялі «юшнік» з крыві, а ў гады, калі не калолі на «дзяды» падсвінка, то клёцкі з «душамі», г. зн. з завернутымі ў цеста скваркамі, і аладкі з верашчакай або замест аладкаў каўбасы з сырой капустай і на заканчэнне «саламатка», г. зн. сушаныя яблыкі, грушы і ягады, вараныя на мёдзе, або замест «саламаткі» аўсяны кісель з мядовай сытой. Варылі на вячэру больш, чым было трэба: і рэшткі мяса, аладак і інш. дзялілі паміж беднымі: кожны вяртаўся дамоў з клункам, у якім заўсёды, акрамя ўсяго іншага, была пара каўбас.

Перад вячэрай маліліся з малітоўнікаў па памёршых, а пасля вячэры, пасядзеўшы і пагутарыўшы на тэмы, пахвальныя для продкаў сям'і, разыходзіліся.

З пераказаў майго бацькі, чутых ад дзеда і старых людзей яго пакалення, з днём дзядоў звязвалі яшчэ адзін цікавы абрад — гэта ўпісванне і выпісванне з сямейнай кронікі членаў сям'і. Нованароджаных упісвалі, а памёршых выпісвалі. Кронікі гэтыя вяліся на бэльках хаты ў «пачэсным» куце.

(Крывіч. 1927. № 12, с. 66—69. Зап. у Дзісенскім п.).



Маскоўскія могілкі ў Менску. Дзяды-88. Здымак Уладзіміра Кармілкіна.

### Дзяды, або памінальныя абрады

...Багата ў якіх мясцовасцях існуюць яшчэ дахрысціянскія жалобныя абрады. На Піншчыне, хоць і часткова, яны захаваліся і па сённяшні дзень, іх адзначаюць у лістападзе пад назвай дзядоў. Ужо нават сам лістапад прыносіць разважлівыя думкі пра тое, у чым выяўлялася жыццё і на нашых вачах перастала быць жывым: на палях вострa тырчыць адно толькі ржышча пажатага збожжа; ні тут, ні ў лесе не чуваць болей песень; ні на дрэве, ні пад ім не напявае пастушок, пажоўклае і пачырванелае лісце аблятае з калісьці зялёных вершалін, і смутна ўсцілае ўзгалоўе паміраючай прыроды на зімовы сон. Толькі часам пачуеш галасы адлятаючых журавоў, смутныя, як пахавальны плач. Хмура і панура: не відаць сонца, ад нябёс да зямлі навісла густая імгла. Толькі доўгім вечарам і ўночы праясняецца неба полымем зарыва, ці то ад смаляных печаў, ці ад агнёў, рассыпаных далёка па балотных травах. Можна сказаць, што гэта зарыва, запаленае пры пахаванні прыроды. У сялянскія двары плённая восень натрэсла з поўнага рога і зерня, і гародніны. У сялянскіх хатах спакойны, добры дух; сяляне маюць час успомніць пра сваіх продкаў, якім яны абавязаны жыццём, бадзёрым здароўем і ўласным набыткам, якія і бога хваліць, і жыць на свеце іх навучылі; цяпер яны маюць час адплаціць доўг удзячнасці душам сваіх продкаў дзякуючы абраду ў гонар іх памяці і спраўляюць дзяды.

На Піншчыне напярэдадні дзядоў альбо вячэры для мёртвых гаспадыні старанна прыбіраюць свой дом, усю рухомую маёмасць, расстаўляюць па кутках усе гаспадарчыя прылады, каб тыя не замінаді ў хаце духам, што збіраюцца прыйсці сюды на бяседу. Назаўтра амаль усёй сямейнай грамадой ідуць на могільнік, падаюць на магілы, плачуць уголас і моляцца за сваіх мёртвых. Вярнуўшыся дадому, мітусяцца ў падрыхтоўцы да памінальнай вячэры і да самага яе надыходу на працягу цэлага дня ніхто нічога не есць. Вечарам засцілаюць стол белым абрусам, пасярэдзіне яго запальваюць гарэлку для нагадвання пра пякельнае полымя (...), кідаюць соль на распаленае вуголле, каб пачуць мову яго таямнічага трэску. Асвяціўшы стол васковай свечкай, ставяць на яго боб ці гарох з мядовай сытой, поліўкамі з рыбы і мяса — кіслымі і прэснымі, смажанай саланінай, аладкамі, яечняй з каўбасамі, кашай прасяной ці грачанай, малаком макавым і кіслым. Пасярод страў ставяць на стале булку хлеба і нарэзаным хлебам ці малымі боханамі абкладваюць вакол стала так, каб тры булачкі былі ў рад адна каля другой, на пачэсным месцы стала. Тут жа, каля гэтага пачэснага месца ці на покуці, вешаюць драўляную шабельку і пры ёй (калі няма кап'я) — качаргу, у выпадку, калі хтосьці з гаспадароў служыў у войску. Прыгатаваўшы багатую для продкаў вячэру, каб іх духі ў колішнім іх доме шчодра прыняць і ўсім дагадзіць, адчыняюць вокны і дзверы, старэйшыя з сям'і абыходзяць дом навокал, моляцца, паглядаючы ў бок могільніка, і запрашаюць мёртвых. Вярнуўшыся ў хату, у цішыні садзяцца воддаль стала і прыглядаюцца да ўяўнай бяседы духаў. Калі, па разуменню гаспадыні, духі нарэшце насыцяцца, яна падае знак, гаспадар садзіцца за стол і запрашае сям'ю і астатніх вячэраць. Гаспадар пачынае першы, зачарпнуўшы ад сыты з бобам або гарохам, ці так званай куцці, і першыя яе лыжкі адлівае для памёршых у асобную пасудзіну; за ім тое ж робіць гаспадыня, потым пачынаюць есці ўсе астатнія. Такім жа чынам гаспадар з гаспадыняй адліваюць духам і частку з усіх іншых страў (...) яшчэ некалькі дзесяткаў год назад пад час святкавання дзядоў завязвалі вочы смялейшай і спецыяльна выбранай для гэтага дзяўчыне ці жанчыне і саджалі яе на слуп, укапаны ў падлогу каля печы. Гэта жрыца, цэлы дзень перад тым не еўшы, прыглядалася да душ, якія ўваходзілі ў хату, стараючыся пазнаць у іх сваіх знаёмых і родных; бачыла ў сваім уяўленні, як душы далёкіх сваякоў і сяброў дружалюбна набліжаліся да тых, хто сядзеў за сталом, палохалася выгляду постацей душ, не вядомых яе дому і чужых, і абцяжараных пракляццем за крыўды і прысваенне чужога. Убачыўшы постаці гэтых непрытульных агрэсіўных душ, жанчына палохалася, часам страціўшы прытомнасць, валілася на зямлю, палохаючы тым самым астатніх.

(Зянькевіч, с. 111—113. Зап. у Пінскім п.)
Пахаванні, памінкі, галашэнні. Мінск, «Навука і тэхніка». 1986.

Здымак Уладзіміра Кармілкіна.



Крыж пакуты ў Курапатах. Дзяды, 1989 год.

# Імя па бацьку

Дарагая рэдакцыя!

Хацелася б атрымаць даведку, як пішуцца па-беларуску імёны па бацьку.

У выданнях «Беларускай Савецкай Энцыклапедыі» чытаю, напрыклад, «Васілевіч», а ў газетах сустракаю звычайна толькі «Васільевіч».

З павагаю

Іван ШЫМКО.

гор. Кіеў.

**Як вядома, у Беларусі звароты па бацьку пачалі ўжывацца адносна нядаўна, хоць самі ўтварэнні добра вядомыя ў нашай мінуўшчыне: адсюль і нашы прозвішчы тыпу Антановіч, Барысевіч, Васілевіч, Міцкевіч і інш.**

**Сённяшнія імёны па бацьку ўзыходзяць да прыналежных прыметнікаў, утвораных ад імя бацькі, да якіх пасля далучылася ·іч і ·на.** Ланцужок тут гэтакі: сын Пятра, Пятроў (сын), Пятровіч.

Разгледзім цяпер сённяшнія ўтварэнні імёнаў па бацьку. Найбольш характэрныя такія выпадкі:

а) Ад імёнаў, якія заканчваюцца на цвёрды зычны, яны ўтвараюцца праз далучэнне **-авіч, -аўна.**

Антон+-авіч, -аўна: Антонавіч, Антонаўна

Барыс+-авіч, -аўна: Барысавіч, Барысаўна

Рыгор+-авіч, -аўна: Рыгоравіч, Рыгораўна

б) Ад імёнаў, якія заканчваюцца на мяккі зычны, — праз далучэнне -евіч, -еўна. **Канцовы мяккі знак пры гэтым апускаецца.**

Анатол(ь)+-евіч, -еўна: Анатолевіч, Анатолеўна

Васіл(ь)+-евіч, -еўна: Васілевіч, Васілеўна

Вітал(ь)+-евіч, -еўна: Віталевіч, Віталеўна

Генадз(ь)+-евіч, -еўна: Генадзевіч, Генадзеўна

в) Ад імёнаў, што канчаюцца на -й, імёны па бацьку ўтвараюцца праз далучэнне -евіч, еўна (канцовы -й пры гэтым апускаецца).

Аляксе(й)+-віч, -ўна: Аляксеевіч, Аляксееўна

Андрэ(й)+-евіч, -еўна: Андрэевіч, Андрэеўна

Дзмітры(й)+евіч, -ўна: Дзмітрыевіч, Дзмітрыеўна

Георгі(й) +-евіч, -еўна: Георгіевіч, Георгіеўна

Мікала(й)+-евіч, -еўна: Мікалаевіч, Мікалаеўна

Сярге(й)+-віч, -еўна: Сяргеевіч, Сяргееўна.

**г) Калі ж зыходныя імёны канчаюцца на -дзій, -цій, сій, -лій, то перад -евіч, -еўна ставіцца мяккі знак.**

Мяфодз(ій)+ь—віч, -еўна: Мяфодзьевіч, Мяфодзьеўна

Вікенц(ій)+ь—евіч, -еўна: Вікенцьевіч, Вікенцьеўна

Лаўрэнц(ій)+ь—евіч, -еўна: Лаўрэнцьевіч, Лаўрэнцьеўна

Лявонц(ій)+ь—евіч, -еўна: Лявонцьевіч, Лявонцьеўна

Амврос(ій)+ь—евіч, -еўна: Амвросьевіч, Амвросьеўна

Савел(ій)+ь—евіч, -еўна: Савельевіч, Савельеўна

Трэба зазначыць, што ідзе абеларушванне падобных імён. Пра гэта сведчаць і розныя напісанні ў нас: **Юры і Юрый, Георгі і Георгій.** Пры ўдакладненні правапісу, мне здаецца, варта было б канчаткова адмовіцца тут ад апошняга й. Аднак трэба мець на ўвазе: часам нязначная розніца — у адну-дзве літары, а носьбіты гэтых імёнаў рэагуюць на іх вельмі неадназначна...

У юрыдычнай літаратуры існуюць спецыяльныя правілы, якія імёны лічыць за варыянты, а якія — за самастойныя. (Напрыклад, **Устын і Юстын** — розныя, бо ініцыяльныя літары ў іх не адны і тыя ж, а **Яфім і Яфімій** — варыянты).

**Клапоцячыся пра пэўную уніфікацыю** (напрыклад, у нас ужо ўстаяліся напісанні **Анатоль** (а не Анатолій), **Васіль** (а не Васілій), а таму адпаведна імя па бацьку трэба пісаць: **Анатолевіч** (а не Анатольевіч), **Васілевіч** (а не Васільевіч), неабходна, аднак, цярпліва ставіцца ў пэўных выпадках і да дваякіх, траякіх і г. д. напісанняў: Лявон — Лявонавіч, Лявонці — Лявонцьевіч, Язэп — Язэпавіч, Іосіф — Іосіфавіч, Восіп — Восіпавіч, Есіп — Есіпавіч. Іазеф — Іазефавіч.

А цяпер зноў працягнем гаворку пра ўтварэнне імёнаў па бацьку: калі зыходнае слова канчаецца на галосны. Адметныя тут толькі ўтварэнні ад імёнаў з канцовым **націскным** галосным (праз далучэнне -іч, -інічна).

Ілья́ — Ільіч, Ільінічна

Кузьма́ — Кузьміч, Кузьмінічна

Лука́ — Лукіч, Лукінічна

Астатнія імёны ўтвараюцца па аналогіі з разгледжанымі ўзорамі: Гаўрыла — Гаўрылавіч, Гаўрылаўна, Кірыла — Кірылавіч, Кірылаўна, Мікіта — Мікітавіч, Мікітаўна.

Думаецца, не складуць цяжкасці і іншыя імёны, якія трошкі адыходзяць ад раней разгледжаных: Леў — Львовіч, Львоўна, Павел — Паўлавіч, Паўлаўна, Якаў — Якаўлевіч, Якаўлеўна.

Зазначым, што калі ў рускай мове імёны на -слав утвараюць два варыянты: Вячеславович, Вячеславич, Вячеславовна, Вячеславна, то ў беларускай мове ўжываецца адно імя па бацьку: **Вячаслававіч, Вячаславаўна.**

**Вочь асноўныя практычныя парады без заглыблення ў больш шырокія гістарычныя і гукавыя асаблівасці ўтварэння імён, закранаць якія тут не выпадае.**

Анатоль КЛЫШКА.

# КАСТРЫЧНІК

Прыйдзе восень — заб'ю лося, галаву з'ем, шкуру аблуплю, а мяса за плот выкіну. Цяпер не кожны беларус адгадае гэтую загадку. Той-сёй, што, праўда, зайздрасна, але большасць усё яшчэ грэбліва пазірае на ільняную бялізну ды на палатнянае адзенне. Убіта ў галаву: лён ад беднасці. Няшчасныя беларусы! Калісь усё жыццё ў палатняным...

«Гладкае, не маркае, не цяжкае, прыдатнае ў кожную пару года», — так хваліў ільнянае адзенне Плутарх. Цаніў палатно і Гамер. А ў Старажытным Рыме амаль такія ж абрусы, што нашы продкі засцілалі штодня на стол, былі прыкметай раскошы. (Ці не таму, што здалёк — мо з-па-над Нёмана — прывозілі?) Палатнянае адзенне, якое штодня насілі нашы продкі, аздабляла, як пішуць, біблейскіх герояў, фараонаў, жрацоў. На егіпецкіх фрэсках III тысячагоддзя да н. э. намаляваны ўсе стадыі апрацоўкі лёну — разгадка той беларускай загадкі? Шчыльныя і трывалыя палатняныя латы, што не «грэлі», і якія не прабівала страла, насілі, напрыклад, воіны персідскага цара Ксеркса...

І на нашай зямлі быў калісь лён адной з самых шанаваных раслінаў, бо і апранаў і карміў. Беларускія жанчыны пад час трох важнейшых паганскіх святаў, што спраўляліся ў зімовы і летні сонцавароты ды вясновае раўнадзенства, выконвалі магічныя дзеянні, каб вырас лепшы лён. На куццю выцягвалі каліўцы травы з пасланага пад абрусам сена — варажылі. На ўласе (масленіцу) спецыяльна ездзілі на санях як мага далей, каб лён быў даўжэйшы. А на купалле дзяўчаты і маладзіцы кідалі ў вогнішча бярозавыя галінкі ды прыгаворвалі: «Каб мой лён быў такі ж вялікі, як гэтая бярэзіна». А ўжо працы беларускія жанчыны не шкадавалі.

Што і дзівіцца, адзенне і бялізна, пялёнкі, павязкі на раны... Ручнікі, якія ўжываліся амаль у кожным абрадзе, на вяселлі і пры пахаванні. Абрусы, што мелі сваю незаменную абрадавую ролю, і без якіх ні свята, ні гасціны не абыходзіліся...

Відаць, можна гаварыць і пра культ ільну... Культ, звычайна, быў звязаны з пэўнымі забаронамі. Існаваў, напрыклад, зарок не ўжываць імя Пяруна з пустым словам, як кажуць. Ды вось імем вельмі карыснай і патрэбнай ліпы назвалі месяц, а для пары, калі жанчыны церлі лён, з-за зароку нельга было прыдумаць назву, звязаную непасрэдна з словам лён. Ды знайшлі спосаб...

Вылежаўся лось на сарака росах, павезлі яго ў сушню. Ляскацяць церніцы, сыплецца кастрыца — працягваецца штолетняя жаноцкая праца, праягваецца і лета, бабіна.

Здзіслаў СІЦЬКО.

# І вершы, бы малітвы, і вера, бы жыццё

Феномен невытлумачальны й які нідзе болей, пэўна, не сустрэнеш. Здавалася б: чалавек гэткі ж, як астатнія, беларус ці рускі выехаў у пэўны ліхі час за мяжу й застаўся там жыць. Калі памеркаваць, то нічога ў гэтым страшнага няма. Але ў хворай краіне не можа ўсюды быць здаровы сэнс. Як вынік — цэтлікі «дысыдэнта», «здрадніка», нават «фашыстоўца». Адсюль адпаведнае стаўленне. Колькі цэбраў бруду вылілі «Вячэрні Мінск», «Политический собеседник» на Францішка Кужаля, Наталлю Арсенневу, айца Аляксандра Надсона. Але ёсць людзі, дзеячы культуры замежжа, беларусы паходжаннем,— пра якіх газеты доўга маўчалі. Сярод іх і пісьменнік з Глен Кова, магістр універсітэта ў Індыяне Масей Сяднёў. Цяпер час ад часу з'яўляюцца яго вершы на старонках нашых газет і часопісаў, рыхтуецца кніга выбранага ў выдавецтве «Мастацкая літаратура». І я б хацеў бы дадаць да ўсяго пераказ гутаркі з Масеем Ларывонавічам, калі ён гасцяваў на Беларусі. Спачатку яго я ўбачыў у грамадскай прыёмнай «Чырвонай змены», куды ён прыйшоў на сустрэчу з літаб'яднаннем «Крыніцы». Потым Масей Сяднёў прызнаўся:

— Я быў вельмі расчулены. Ледзь не плакаў. Гады ўжо, пэўна, такія.

Да арышту Масей Ларывонавіч паспеў павучыцца амаль чатыры гады на філалагічным факультэце Менскага пединстытута. Потым — арышт, лагеры і — воляю Бога апынуўся за мяжою. Пасля працы на фабрыцы Масей Сяднёў пачынае выкладаць у штаце Індыяна ва універсітэце расейскую філалогію й літаратуру, дзе й атрымлівае «эн эйр». Штосьці накшталт магістра. Цяпер ён на пенсіі, можа часцей заставацца сам на сам з літаратураю.

Размаўляючы з Масеем Ларывонавічам, загаварылі пра будучыню беларускае мовы, самой Беларусі, яе традыцый. І, ведаеце, цікавыя не толькі яго думкі, але й мова. Хоць яна й засталася ў нейкай ступені ў 30-х гадах, але ж яна не набыла вялікае колькасці сучасных філалагічных недарэчнасцяў, расейскіх словаў. Таму й буду ў пераказе гутаркі адзначаць на паперы асаблівасці мовы майго суразмоўцы.

— Я быў у «Чырвонай змене» на літаб'яднанні «Крыніцы». Там крыху пазнаёміўся з моладдзю... Быў вельмі ўсцешаны, калі пабачыў, што беларускае пытанне не такое безнадзейнае. Мяне цешыць, што моладзь гэтага канкрэтнага літаб'яднання хоча працаваць у галіне адраджэння, хоча, каб Беларусь была Беларуссю.

— У песні «Аксамітны летні вечар» ёсць словы: «Мне чужына сэрца джаліць, цісне, як змяя, бо гукае з дальніх даляў Беларусь мая». Якая да Вас была чужына?

— Калі спяваюць гэтую песню, я не магу стрымаць слёзы. Я адчуваю тугу па Бацькаўшчыне,— можа, нешчаслівай, чарнобыльскай (як хочаце, назавіце).

Але што для мяне чужына, й што — Бацькаўшчына? Бацькаўшчына ў мяне была заўсёды й застанецца Бацькаўшчынаю. Што датычыцца паняцця «чужына»... Я — грамадзянін Злучаных Штатаў Амэрыкі. Гэтая краіна не толькі давала мне матэрыяльную дапамогу, але й урокі жыцця. Але змяніць адну Айчыну на другую вельмі цяжка. Дзіўлюся, як нехта проста мяняе Бацькаўшчыну.

Ведаеце, мы ня будзем удавацца ў псіхалогію. Той ці іншы ўжо там асеў, пусціў ужо карэнне нейкае. У веку старэйшым яму ўжо цяжка было б прыстасавацца на сваёй Бацькаўшчыне. Мы для сябе ўжо стварылі Беларусь ідэальную. Такім прыкладам з'яўляецца БНР. Эмігранты прыхільна ставяцца да ўсіх працэсаў абнаўлення ці адраджэння,— тут няма ніякага сумневу. І асабліва, калі штосьці робіцца ў сэнсе нацыянальным, у сэнсе адраджэння беларускае нацыі.

— А якім жа, Масей Ларывонавіч, мусіць быць прэзідэнт Беларусі?

— Ён, як мне здаецца, мусіць быць перш за ўсё чалавекам: гуманным, разумным, працаваць на карысць сваёй нацыі, Беларускага Краю.

Пэўна, з вялікаю радасцю М. Сяднёў павёз з сабою некалькі асобнічкаў «Нашага Слова». У адным з нумароў, дарэчы, друкаваўся й яго верш «Сон». Вядома, я папытаўся госця пра яго стаўленне да новага выдання.

— Мне вельмі бюлетэнь падабаецца. Цешуся, што ў адным з нумароў ёсць і творы беларускіх паэтаў-эмігрантаў. Гэта тое, пра што мне хацелася б сказаць некалькі словаў. Радуе, што стаўленне да нас пакрысе мяняецца. Ёсць сымптомы таго, што Беларуская Рэспубліка наладзіць супрацоўніцтва з тымі, каго лічылі раней за ворагаў. Што ёсць спроба ўсё створанае эмігрантамі (у прыватнасці, у галіне літаратуры) вярнуць, далучыць да агульнае нацыянальнае літаратуры. Тут, я чуў, ёсць нямала людзей, якія імкнуцца вярнуць Беларусі і творчасць выдатнае паэтэсы Наталлі Арсеневай. Таксама я рады, што надрукавалі й мой сціплы даробак.

«Наша Слова» прапагандуе менавіта беларускую мову, менавіта беларускую праблематыку. Цешыць, што ёсць гэтакае, патрэбнае зараз, выданне.

— Скканчаю гэтае інтэрв'ю з надзеяй, што Вы зноўку прыедзеце на Беларусь, што будуць новыя сустрэчы і гутаркі. Інакш не можа быць. Бо навошта тады вершы, бы малітвы пра будучыню, і вера, як само жыццё?

**Ул. ПУЧЫНСКІ.**



Масей Сяднёў і Васіль Хомчанка.

Фота аўтара.

---

*Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар*

публіканскага моўнага заканадаўства. Толькі не трэба спадзявацца, што сказанае сябрам Таварыства будзе прынята ў аднначассе да выканання. ТБМ — грамадская арганізацыя. Кіраўнікі ж розных узроўняў пакуль не дужа прыслухоўваюцца да голасу грамадскасці.

У такой сітуацыі варта памятаць, што многія з моўных праблемаў даволі паспяхова можна вырашаць праз раённыя, абласныя, гарадскія Саветы народных дэпутатаў. Кожны з сяброў ТБМ — выбаршчык і мае «свайго» дэпутата ў Саветах. Надпісы на дарожных указальніках, тапаніміка могуць стаць тэмай наказаў выбаршчыкаў. Дзейнасць па ўпарадкаванні надпісаў таксама ж можа актывізаваць краязнаўчую работу, істотна паспрыяць уздыму патрыятызму насельнікаў Беларусі. Усё гэта не пройдзе марна для нас і нашчадкаў.

**І. ЧАРНЯЎСКІ,**
**намеснік старшыні Мінскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны.**

# Амерыканскія сустрэчы

Заканчэнне.

Пачатак на 2-й стар.

гэта звычайна робіцца ў выпадках вялікіх катастрофаў. Імкнуцца адроджваць нацыянальную культуру, хрысьціянскую і агульначалавечыя вартасьці.

2. Зьвярнуцца з просьбай ад імя беларускіх грамадаў у ЗША і Канадзе да Кангрэсу ЗША і Парляманту Канады, каб у Амэрыку і Канаду былі прынятыя квоты імігрантаў зь ліку жыхароў найбольш заражаных мясцовасьцяў чарнобыльскай зоны Беларусі.

3. Падтрымаць і далей дзейнасьць Беларускага Народнага Фронту, сьціраваную на ратаваньне жыхарства ад чарнобыльскай радыяцыі, на ратаваньне беларускае нацыі ад культурнага заняпаду, да якога давяла аднапартыйная сыстэма.



У часе Сустрэчы. Малітву спявае Данчык.

4. Рабіць захады для пабудовы коштам амэрыканскіх і канадзкіх фондаў анкалягічнага шпіталя ў Беларусі, у якім лячыліся б ахвяры чарнобыльскай радыяцыі ды ў якім працавалі б таксама і лекары з Амэрыкі й Канады.

5. Спрыяць усімі магчымымі спосабамі эканамічным і гандлёвым сувязям паміж амэрыканскімі, канадзкімі ды іншымі заходнімі фірмамі, з аднаго боку, і прыватнымі прадпрыемствамі Беларусі, з другога.

6. Спрыяць пашыраньню й замацоўваньню дыпляматычных сувязяў Злучаных Штатаў Амэрыкі й Канады зь Беларускай Рэспублікай, Вярхоўны Савет якое абвесьціў 27 ліпеня сёлета Беларусь сувэрэннай дзяржавай.

7. Падтрымваць справу як мага больш шырокага навуковага, культурнага і турыстычнага абмену паміж Паўночнай Амэрыкай і Беларусьсю, прыезду ў Злучаныя Штаты й Канаду беларускіх студэнтаў на навуку, спэцыялістаў рознага профілю, у тым ліку сельскагаспадарчага, на практыку, моладзі на азнаямленьне з жыцьцём Беларусаў Амэрыкі й Канады.

8. Мы падтрымліваем ініцыятыву камітэту згуртаваньня «Бацькаўшчына» ў Менску дзеля аб'яднаньня Беларусаў сьвету, каб супольна спрыяць (кажучы словамі аргкамітэту са «Звароту да Беларусаў сьвету») «нацыянальнаму адраджэньню ўсяго беларускага народу, палітычнаму і эканамічнаму сувэрэнітэту Беларусі».

9. Мы вітаем намаганьні ў колах беларускага грамадства, сьціраваныя на рэалізацыю Закону аб дзяржаўнасьці беларускае мовы, які ўвайшоў у сілу ўчора, 1-га верасьня 1990 году.

10. Мы зварчаемся з просьбай да ўладаў Беларускай ССР, каб было спынена накладаньне мыта на дазыметры, якія жыхары Рэспублікі дастаюць ад сваіх суродзічаў з-за мяжы.

11. Мы выказваем непакой з прычыны наростаньня антыбеларускай акцыі на Беласточчыне, якая выяўляецца ў хлусьлівай прэсавай кампаніі ды ў паленьні цэркваў і нішчэньні помнікаў беларускай культуры. Нас таксама трывожаць выпадкі частага прападаньня ў дарозе да адрасатаў у БССР і Польшчы беларусаведных публікацыяў, у тым ліку зборнікаў мастацкае літаратуры і навуковых артыкулаў, рэлігійных выданьняў.

12. Мы поўнімся надзеяй, што працэс дэмакратызацыі ў Беларусі будзе паглыбляцца й замацоўвацца, спрыяючы палепшаньню эканамічнага дабрабыту і культурнаму росквіту Беларускага народу да ўзмацненьню мірнага супрацоўніцтва паміж народамі Беларусі, Злучаных Штатаў Амэрыкі й Канады.

Кліўленд, Агаё, ЗША
Нядзеля, 2 верасьня 1990 году.

# ПРЫВІТАНЬНЕ АД ПРЭЗІДЭНТА БУША

## 19-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Кліўлендзе

Белы Дом
28 ЖНІЎНЯ 1990 г.

Я з прыемнасьцю перадаю свае найцяплейшыя прывітаньні ўсім, хто прыбыў на 19-ю Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Я асабліва вітаю нашых гасьцей з Савецкага Саюзу.

На працягу апошняга году, у часе якога адважныя мужчыны й жанчыны распалілі агні свабоды па цэлай Усходняй Эўропе, мы сталіся сьведкамі аднаўленага ўздыму этнічнай годнасці і культурнай самасьведамасьці як у гэтым рэгіёне сьвету, гэтак і ў Паўночнай Амэрыцы. Злучаныя Штаты— гэта нацыя імігрантаў, і мы падзяляем моцнае адчуваньне роднасьці з народамі краёў нашага паходжаньня. Гэтак, мы з гордасьцю пераходуваем шмат розных звычаяў і традыцыяў, зь якіх складаецца такая вялікая частка нашае культурнае спадчыны.

Ушаноўваючы ўнікальную спадчыну Беларускага народу і шматлікія выпадкі ўкладу, зробленага Беларусамі, у Злучаныя Штаты й Канаду, гэтая Сустрэча таксама падкрэсьлівае наша пачуцьцё прыязьні да тых, хто жыве на нашых айчынных землях. Народ Беларусі імкнецца будаваць там, дзе камунізм будаваў, і я далучаюся да вашае ўрачыстасьці, якая адзначае ягоныя аднаўленыя спадзяваньні на будучыню...

ДЖОРДЖ БУШ.



«Жывіца» ў Амэрыцы.

# З гаворкі Мсціслаўшчыны

**Аблапавушыць.** Падмануць і абабраць. А таго аблыпавушылі, што рызівон і думыць нічога ня хочыць.

**Абначавацца.** Заначаваць. Ты кошку выкінь вон, ато абначуіцца ў хаці і пойдзіць ноччы лазіць усюдых.

**Абскробкі.** Абскрэбеныя рэшткі. Апскробкі нада ўскінуць на воз, падж жэрдзь увяжуцца, двору зывязеш.

**Абслухацца.** Успрыняць не так, як прагучала. Каб раз, можа б апслухыўся, ато а-я-яй, мне разоў пяць пыкызалыся, што ў том баку цялёнык мікыіць.

**Абстолівацъ.** Насцілаць столь. Нада ўсё кругом апстолівыць, і абея хаты, і сенцы, і на клець, я думыю, хваціць достык.

**Абстоліць.** Наслаць столь. Хаты я пасьпею апстоліць, а клець ніхай так зімуіць, ды вясны астаніцца.

**Абсуд.** Абгавор. Доўга ў іх апсуд цягнуўся, па костычкых Тоньку рызьбіралі.

**Агламаздзіць.** Задурыць, зачмурыць. Аглымаздзіў ты мне гылаву, я ўжо ня помню, айдзе тэя ключы лажыла.

**Адкарстваваць.** Напакутавацца. Што намучылыся Прося, пакуля яе бог прібраў, што аткарствывыла, адна я толька знаю.

**Аднаверна.** Сумленна. Водз за тоя хвалю, што так аднаверна здзелыў, ні падвёў.

**Акапіроўшчык.** Той, хто дапамагае абжывацца. Ім нада харошый акыпіроўшчык, каб було за што зычапіцца.

**Ататурыванне.** Суцішанне. Ня дужа яны пынімаюць тваё ататурівыння.

**Атрумзаць.** Адплакаць. І столька ён атрюмзыў пы цітрадкі, а ніхай ба йна згарела!

**Атрыг.** Успамін; вяртанне. Як пашоў у сорык первым, худзь ба якей атрыг быў, ні слуху ні духу ні пры аднаго. Ніхай ім атрыгу ня будзіць, такім харошым.

**Ачумачыванне.** Адурманьванне, затлумліванне. Кажный дзень адно і тоя, тлум і тлум, хваціла з мяне ачумачывыння.

**Басаторыя.** Басата. Некыму найціцца ды хырашэнька пыгыняць ету бысаторію.

**Безлюдзь.** Нягоднік. Ён безлюдзь і іна тыкая самыя, ікраз пара пыдыбралыся.

**Брынданне.** Бязмэтнае блуканне. Думыю, што доўга твайго брындыння цярпець ня будуць, папруць ны работу.

**Веразуб.** Чалавек з рэдкімі зубамі. Ета вірязуб гырадзкей пашоў, быў у гысьцях у Полькіных.

**Верхнікі.** Нагавіцы. Верхнікі твае ны шасту нат печчу вісяць, глядзі, ці яны троху прасохлі.

**Возка.** Адзін прывоз. Я ж яму зы кажныю возку рублей тріццыць, дваццыць пяць, а меншы ні дывала.

**Вытрасацца.** Выбаўляцца. Так-етык вытрісаліся з нішчасціў, дужа ім трудна пріхадзілыся ў жызні.

**Гамурліва.** Ганарыста, капрызна. Так гумурліва рызгыварівыіць, што дайжа ні паходжа ну Кулініныга сына.

**Глыбленне.** Капрыз, надзіманне. Дужа гадкыя дзяўчонка із яе гріблінním, усігда грібы (губы. — Г. Ю.) руспуцёмшы ходзіць.

**Дападбіраць.** Атрымаць непрыемныя вынікі пры працяглым выбіранні. Дыпыдбіраў нявесту, кусаіць сам сабе за локці, ды позна цяперіцька кусаць.

**Даразумляць.** Вучыць. Трудна дурузумляць, кылі гылыва пустая.

**Дахвалянне.** Выхваленне. Калі чылавек шкарпэт, дык у яго дыхвыляння нямерныя.

**Загражаннік.** Той, хто пагражае. Я б так турнула етыга зыгрыжанніка, што ён ні знаў ба, як ляцець.

**Задзядзелый.** Пасталелы. Зыдзядзелыя хлопцы, ім пат тріццыць, цігаюцца, як бугаі.

**Заключэнец.** Арыштант. Гыварілі, некуды пірігынялі, дык адзін зуключэніц уцёк.

**Закумечывацца.** Затлумлівацца. Ні пайду я туды зукумечывыцца, ніхай яны адны дурюцца.

**Захлёпістасць.** Шпаркая невыразная гаворка. Вот ач чаго тыкая захлёпістысь пулучаіцца, турлычыць нешта і турлычыць.

**Каверчаный.** Пакручаны. Каверчыныя дзеріва, ні цісаць, ні стругаць рубанкым, зыдзіраіцца і большы нічога.

**Калдыкаць.** Ісці нязграбна, кульгаючы. У погріб калдыкыла, калдыкыла, шаг ступіць трудна, чуць дыйшла.

**Капяк.** Куча. Ладный кыпяк быракоў насыпылі, нада лыцнаць пірявезць біз дажджу.

**Кляццё.** Праклён. Ныўряд, ці пірязлухыіцця вы Матруніна кляццё, іна як зыкладзець — ні ны адзін час.

**Лапун.** Той, хто хапае, лапае. Ах ты, лапун нішчасный, а пу руках ці хочыш?

**Маздачыцца.** Няўмела араць. Мыздачыўся часы трі, троху ускывіряў, зь яго такей пыханнік.

**Маненнік.** Той, хто падзывае (жывёлу, птушку). Ці так жа монюць, такога маненніка куры ні паслухыюць.

**Набегаць.** Нарадзіць без шлюбу. Усё круцілыся, верцелыся, места ні було, пакуля лялька сабе набегыла.

**Наклібіць.** Нагаварыць, напляузгаць. Хто ёй наклібіў пры Навума, мы ні знаім, ну толька нехта ладна пыстыряўся.

**Падбаярыванне.** Падбухторванне. Яму сымаму бокым вылізаіць ета пыдбыярівання, нада нупускаць чуш ну людзей.

**Паджываць.** Пражываць, жыць. Яму німала гадоў, пыджываіць пыдзб дзівятый дзісятык.

**Пасуміцца.** Пасаромецца. Пусуміўся к Вуліціным іціць, успомніў, як у горад лазіў.

**Рабуля.** Жанчына з рабым тварам. Пупаў сабе нейкыю рябулю, відзілі, у горыдзі з ёю прыхаджывыўся.

**Сатаненне.** Падзуджванне, падбухторванне. Нылаіць нада зы сытанення, нашто йта людзей зваджывыць сваріцца.

**Тахнуцца.** Ударыцца. Наўзныч тахнуўся керпка, ета хырашо, ні пупаў гылавою ны карення.

**Уклюбіць.** Пераканаць, увесці ў вушы. Кылі свае гылавы ны плічах німа дык што хочыш можна ўклюбіць.

**Хачэнь.** Жаданне. Твой хачэнь ня дужа каму важын, нада сена прібраць, а горыд пыдажджэць.

**Чапнуцца.** Моцна ўдарыцца. Чаго яму було лезць на тую ёлку, чапнніўся ап карения — і ня жыў.

Георгій ЮРЧАНКА.

Генадзь Сагановіч

# «ЛІТВА! МАЯ АЙЧЫНА!..»

Словы, якімі цяпер карыстаемся, ішлі да нас праз чараду тлумных стагоддзяў гісторыі. Недзе там, у глыбокай смузе часу, хаваюцца іх вытокі, а ўнутраныя значэнні, часам шматкроць перайначаныя, зберагаюць неспазнаныя яшчэ адбіткі рэальных падзей даўно мінулае пары. Вось жа й звыклы для нас назоў «Літва» ў сапраўднасці вельмі таемны. Дасюль ён хавае загадкі свайго гістарычнага шляху.

Цяпер, пэўна, кожны, пачуўшы слова «Літва», атаясамляе яго з Літоўскай рэспублікай, з зямлёю, на якой жывуць літоўцы — сваякі латышоў, балты па паходжанні. Гэтак і «літоўская» гісторыя, культура ды мова ў грамадскай свядомасці ўспрымаюцца як гісторыя, культура і мова сучаснай Літвы. Але чаму ж тады раней, нават якім стагоддзем таму, яны разумеліся зусім інакш? Прыкладам, беларускі пісьменнік В. Дунін-Марцінкевіч «Літвою» лічыў Менск, у якім тады жыў,— сучасную сталіцу Беларусі. Беларускага паэта У. Сыракомлю сучаснікі называлі «літоўскім лірнікам», а іншы вядомы беларускі пісьменнік А. Вярыга-Дарэўскі, што нарадзіўся на Лепельшчыне і жыў у Віцебску, пісаў у сваім творы: «Літва — родна зямелька». Дарэчы, і верш ягоны з красамоўнаю назваю «Ліцвінам, што запісаліся ў мой «Альбом» на развітанне» (1858 г.) быў адрасаваны маладым беларускім літаратарам. У ім, паміж іншага, аўтар усклікваў: «Чый то голас? Гэта словы нашы, браценькі-літоўцы!» Ды ўрэшце й вялікі А. Міцкевіч, народжаны і ўзгадаваны Наваградскай зямлёю, звяртаўся да Беларусі ў славутым «Пане Тадэвушы» са словамі: «Літва! Мая айчына!..»

Падобныя прыклады няцяжка множыць і множыць. Але й з прыведзеных бачна, што ў XIX стагоддзі словы «Літва», «ліцвін» ужываліся як саманазоў беларусаў. Гэтак называлі нас тады й суседзі. Ад украінцаў у дачыненні да беларуса можна было пачуць: «Хіба лихо озме литвина, щоб він не дзекнув!» (тут, дарэчы, адзначана характэрная асаблівасць нашае мовы — дзеканне). Жыхары Курскай ды Арлоўскай вобласцяў Расіі называлі беларусаў «ліцвінамі» ажно да другой сусветнай вайны. А на Беласточчыне і цяпер у адрас беларуса гучыць жартоўнае выслоўе: «Як сыр не закуска, так ліцвін — не чалавек».

Разумею здзіўленне і збянтэжанасць недасведчанага чытача: чым жа тады была цяперашняя Літва, як яна называлася? А яна мела зусім іншы назоў. Яшчэ ў XIX стагоддзі і нават на пачатку XX стагоддзя тэрыторыя цяперашняй Літвы, блізкая да абсягаў Літоўскай рэспублікі міжваеннага часу (1920—1939 гг.) найчасцей звалася сваім спрадвечным назовам — Жамойць (Жмудзь), а літоўская мова — жамойцкай (жмудскай). Пра тое можна сабраць нямала сведчанняў, напрыклад, у апублікаваных матэрыялах паўстання 1863 года.

Такім чынам, яшчэ ў зусім недалёкім мінулым Беларусь, асабліва яе заходняя ды цэнтральная частка, захоўвала назоў Літва. І нават прадстаўнікі афіцыйных уладаў Расійскай імперыі, якія мелі на мэце сцвярджаць у нашым краі «исконную Россию», разглядалі Віленскую, Гродзенскую ды Менскую губерні, а таксама Беласточчыну, як «Літоўскі край». Гэтак і раней, скажам адразу па раздзелах Рэчы Паспалітай, абсягі заходняй Беларусі ўваходзілі ў новастворaную «Літоўскую губерню», а затым — «Літоўскае генерал-губернатарства».

Нават царскія ўлады пакідалі этнічна беларускім адміністрацыйна-тэрытарыяльным утварэнням назоў «Літва». Няўжо выпадкова? Не. Калі звярнуцца да сярэднявечных дакументаў, дык лёгка пераканацца, што па традыцыі, глыбокай гістарычнай традыцыі. У XV — XVII стагоддзях — часе існавання магутнае еўрапейскае дзяржавы Вялікага княства Літоўскага, а ў ёй беларусаў як самастойнага народа — бадай усе дакументы фіксавалі найчасцей кароткую форму наймення гэтага гаспадарства — Літва. У якасці палітоніма, г. зн. дзяржаўна-палітычнага азначэння, слова Літва замацоўвалася нават за паўночнымі ды ўсходнімі землямі Беларусі, якія мелі ўжо і сваю этнанімічную назву «Белая Русь». Напрыклад, сакратар караля Сцяпана Батуры Р. Гейдэнштэйн пісаў, што маскоўскі цар Іван Жахлівы ў 1563 годзе пайшоў вайною «на Літву пад Полацк». А храніст М. Стрыйкоўскі, апавядаючы пра татарскія наезды на Беларусь, адзначыў, што пасля арды крымскага хана Менглі-Гірэя «ў Менску ды іншых літоўскіх местах» пачалася пошасць. У Масковіі таго часу палонных беларусаў — незалежна ад месца захопу — інакш як «літоўскім палонам» і не называлі.

Ну а як называлі сябе самі жыхары старажытнай Беларусі? Можна прывесці безліч прыкладаў, калі вызначэнне «ліцвін» выкарыстоўвалася беларусамі як саманазоў. Славуты студэнт з Полацка Францішак Скарына ў Кракаве запісаўся «ліцвінам», бела-




Навагародак — першая сталіца Вялікага княства Літоўскага — у другой палове XIII стагоддзя. Малюнак Віктара Сташчанюка.

руcкі гуманіст XVI стагоддзя М. Цішкевіч (аўтар трактату «Пра норавы татараў, ліцвінаў і маскавіцян») скрозь падпісваўся «Міхалонам Ліцвінам», а простыя сяляне ды мяшчане, захопленыя царскімі войскамі, называлі сябе ў Маскве «літоўскімі пашаннымі людзьмі розных гарадоў беларусцамі». Паасобку ж кожны мог запісацца, як «ліцвін беларусец Ашмянскага павету», «ліцвінка беларуска Мсціслаўскага павету» і г. д. «Сваю зямлю» палонныя беларускія шляхцічы таксама адназначна называлі «Літвою». І нават Апанас Філіповіч, гэты апантаны барацьбіт за адыход Беларусі «пад высокую руку» праваслаўнага маскоўскага цара, у 1667 годзе месцазнаходжанне Купяціцкага манастыра, адкуль пісаў, лічыў «Літвою», а той жа быў — «міля ад Пінска».

Ды самае цікавае, што й беларускую мову — дзяржаўную мову Вялікага княства Літоўскага — у тыя стагоддзі называлі «літоўскай». Яшчэ чэшскі тэолаг і рэфарматар Еранім Пражскі, пабыўшы пры Вітаўце місіянерам у Княстве, пісаў, што ў гэтай дзяржаве «мова народу ёсць славянская», але па назве гаспадарства «Літва» і яе называлі літоўскай. Пра гэта сведчыць, у прыватнасці, выпадак, апісаны ў Актах Маскоўскай дзяржавы (запіс за 1618 год): «...выехалі з вёскі чалавек з пятнаццаць, а на іх магеркі літоўскія, і пачалі гаварыць па-літоўску: не ўцякайце-дзе!». Або іншы прыклад. Беларускі асветнік Лаўрэн Зізані ў 1626 годзе напісаў праваслаўны «Катэхізіс» для Расіі (на заказ патрыярха) і гэтак патлумачыў у ім назву самога твора: «по-литовску это оглашение, русским же языком нарицается беседословие». А праз год сам маскоўскі цар пытаўся ў яго: «По литовскому языку как вы говорите «собра»?», на што асветнік адказаў: «Тожде и по литовскому языку «собра».

Як урадавая мова магутнай калісьці Літвы — Вялікага княства Літоўскага, беларуская мова яшчэ і ў XVIII стагоддзі, нягледзячы на інтэнсіўную паланізацыю краю, і на Захадзе — для Польшчы, і на Усходзе — для Расійскай імперыі,— заставалася «літоўскаю». Адданы новай уладарцы Кацярыне II праваслаўны ўладыка В. Садкоўскі вось як пагражаў беларускім святарам за іх мову на слуцкім епархіяльным саборы: «Я вас скорэню, знішчу, штоб і языка не было вашого проклятого літовского і вас саміх; я вас у зсылкі парасcылаю альбо ў салдаты пааддаю, а сваіх з-за кардону поноважу!»

Прыведзеных прыкладаў, здаецца, дастаткова, каб пераканацца, што словы «Літва», «ліцвін», «літоўскі» далёка не чужыя цяперашняй Беларусі. Быў час, калі беларусы самі сябе ўсведамлялі і называлі ліцвінамі, а сваю бацькоўскую зямлю — Літвою. Дык калі і як гісторыя дала нам гэтае найменне? І што стаяла за гэтым словам для нашых далёкіх продкаў?

Паспрабуйма цяпер прасачыць шлях «Літвы» ад пачатку.

Упершыню назоў гэты быў зафіксаваны пад 1009 годам Кведлінбургскімі аналамі — адным з найбольш значных гістарычных твораў раннесярэднявечнай Еўропы, у якім падзеі запісваліся па гадах,— у форме «Літуае». З тэксту аналаў вынікае, што Літва знаходзілася недзе на сумежжы з Руссю. З усходнеславянскіх крыніцаў першым пра гэты народ узгадаў Лаўрэнцеўскі летапіс, калі паведамляў пра паходы на Літву кіеўскага князя Яраслава Мудрага ў 1040 і 1044 гадах.

Як сведчаць летапісы, у XII стагоддзі плямёны, што насялялі Старажытную Літву, залежалі ад Полацка і плацілі яму даніну. Далёкі Кіеў падначаліў толькі частку іхнай зямлі. Літва вызначалася ваеннай актыўнасцю: крыніцы паведамляюць пра шматлікія сумесныя паходы палачанаў і «літвы» на Смаленск, Пскоў, Ноўгарад. Пры патрэбе Полацак прапускаў літоўскія дружыны праз сваю тэрыторыю. І толькі ў XIII стагоддзі паміж Полацкім княствам і Літвою дайшло да якіх-колечы канфліктаў. Віцебскія, менскія і турава-пінскія князі таксама скарыстоўвалі ваенны патэнцыял Літвы ў інтарэсах сваёй палітыкі, наймалі літоўскія войскі для сваіх паходаў.

Аднак дзе ж канкрэтна знаходзіліся плямёны Старажытнай Літвы? Якога яны паходжання? Летапісы не даюць простага адказу на гэтыя важныя для разумення гісторыі ўтварэння Вялікага княства пытанні.

Сучасныя літоўскія даследчыкі здаўна лакалізуюць летапісную Літву ў межах Аўкштоты — усходняй, як яны лічаць, часткі цяперашняй Літвы. Яны сцвярджаюць, што ўзгоркі ды лагчыны Аўкштоты і сталіся калыскаю старажытнай літоўскай дзяржаўнасці, а далей утварэнне Вялікага княства Літоўскага ішло шляхам заваёвы славянскіх земляў балцкай (для іх гэта бясспрэчна) Літвою. І нарэшце, з этнічнага пункту гледжання, княства складалася, паводле Г. Лаўмяньскага, «з двух непрыязных сабе элементаў — панавальнага літоўскага ды пакананага рускага».

Вось такія пастулаты, нягледзячы на іх відочную хісткасць і надзіва слабую абгрунтаванасць, ужо не першае дзесяцігоддзе задавальняюць і ўсю савецкую афіцыйную гістарыяграфію. Насуперак гэтым заімшэлым стэрэатыпам адважыўся пайсці беларускі гісторык М. Ермаловіч. Скрупулёзна прааналізаваўшы тэксты летапісаў ды тапаніміку, ён пераканаўча паказаў, што ў XII — XIII стагоддзях Літва знаходзілася не ў Аўкштоце, а на тэрыторыі цяперашняй Беларусі, у басейне Верхняга Нёмана. На поўначы па Беразіне яна межавала з Полацкім княствам, на ўсходзе — з Менскім, на поўдні мяжа яе праходзіла па рацэ Шчары, а на захадзе — па рэках Мышанка і Валаўка, якія аддзялялі Літву ад яцвягаў.

*(Заканчэнне ў наступным нумары).*

# З НАШАГА ЖЫЦЦЯ

*Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.*

**У іх адна мэта — болей зёрнаў кінуць у сагрэтую сонцам раллю.**

**У такі час кожная новая сіла, кожная свежая, нястомленая рука надта патрэбна. А наша грамадзянства не прывыкла да гэтага. Не прывыкла яно разам станавіцца да агульнай працы, кінуць згубны адвечны сон, не разумее яшчэ яно вялікай вагі грамадскай павіннасці. А без такога разумення не можа трываць ніякая жывая справа. Хіба мала ў нас свядомых беларусаў — такіх, што маглі б стацца карыснымі сяўцамі народнымі,— сядзіць па глухіх кутках Беларусі? Ці кожны з іх робіць сваю работу? Ці ўсе трымаюцца разам? Трэба на гэта шчыра адказаць, што не! І вось гэта шмат затрымлівае справу падняцця нацыянальнай беларускай свядомасці. Толькі ў еднасці — сіла, і калі мы хочам зрабіцца сілай, то трэба нам моцна трымацца адзін аднаго.**

**Беларускае жыццё ў нашым часе выяўляецца ў культурна-нацыянальнай рабоце ў шырокіх масах, а гэта работа вядзецца галоўным чынам пашырэннем выданняў народных.**

**Вось жа на гэтую ніву і павінны выходзіць усе нашы працаўнікі. Даць можнасць беларусу чытаць усё патрэбнае яму ў роднай мове — задача часу. А каб мець гэтую можнасць, трэба шмат працы палажыць пры нашых слабых сілах. Дый ці можна нават гэта зрабіць без падмогі грамадзянства?**

**Кожны, хто пачувае сябе шчырым беларусам, павінен даць і сваю лепту на справу народную. Кожны паасобку і ўсе разам павінны мы падпіраць толькі што наладжаную работу. Падтрыманнем выданняў беларускіх зробім мы гэта.**

**Дзеля гэтага і ўсе сілы свае прыкладзём да гэтага. Няхай усюды, дзе чутна жывая мова беларуская, пабачым мы і друкаванае слова беларускае. Няхай беларускія кніжкі і часопісы можна будзе пабачыць у кожнай нашай вёсцы — і тады кожны беларус пазнае, што ён ёсць. Гэты час можа кожны грамадзянін на крок прыблізіць, прыдбаўшы свядомай Беларусі яшчэ аднаго новага чытача. Бо справа свядомасці нацыянальнай, свядомасці праваў чалавека пашыраецца пашырэннем нацыянальнай прэсы.**

**Перад гэтым Новым Годам схіліма галовы ў свядомасці святасці нашай справы. Забудзьма адвечны наш сон, станьма разам да працы. І мы будзем шчаслівыя, што на сваіх слабых плячах вынеслі справу вялікага народу.**

Сяргей ГРАХОЎСКІ

## СЛОВА

*Я пакараны адзінотай*
*На схіле доўгага жыцця,*
*Пакутую заўсёды ўпотай*
*І цешуся да забыцця*

*Туманным золкам вераснёвым*
*І развітаннем жураваў,*
*У сэрцы зберажоным словам,*
*Даўно пазбаўленым правоў,*
*Адроджаным і незабытым,*
*Закрэсленым і зноў жывым,*
*Прастрэленым, ды не забітым,—*
*Адвечным родзічам маім.*

*Яно навекі застанецца*
*Жывым званочкам у траве*
*І ў свеце рэхам адзавецца,*
*Што Беларусь яшчэ жыве.*

Ірына БАГДАНОВІЧ

## ПЕРШАДРУКІ

«Да совершен будеть человек божий
и на всяко дело добро уготован,
яко святый апостол Павел пишеть».
Францыск СКАРЫНА.
Пердъсловие в Псалтирь.

*Сьвятло таемнае — з глыбінь,*
*Хоць навакол пануе цемра*
*І шлях — шыпшына ды палын —*
*Нашчадкам старадаўніх нейраў.*

*Але сьвятло, як валадар,*
*Ідзе з балонак першадрукаў,*
*На іх Скарына выкладаў*
*Для людства любага навуку:*

*Каб кожны божы чалавек*
*Быў дасканалым у айчыне,*
*Каб гадаваўся не на зьдзек —*
*Для справы ўсякай дабрачыннай.*

*Сьвятло таемнае — з глыбінь.*
*Старонкі кніг раскрытых — крылы.*
*Каб мы і сёньня не забылі*
*Сэнс запаветаў тых. Амінь.*

Антаніна ХАТЭНКА

*Зямля-зямелька... Свята сямейка.*
*Мая надзея. Нясу нядзельна*
*Гаючы зёлкі.*
*Малюся Сонцу, чырвону золку.*

*...Святыя вязні сваёй радзімы.*
*Душа не гасне. Зямля не стыне.*
*Мае турботы. Мае трывогі...*
*Пчаліне — соты. А мне дарога.*

*Іду шляхамі між неба й долу.*
*У светлым храме малю я долі*
*Майму народу, маёй Айчыне.*
*Жывому роду не стлець, не згінуць.*

*Бялеюць косці — зямля мудрэе.*
*Гадуе Космас жыццёва дрэва.*
*Сусвет гукае да чыстых зорак.*
*Зямля трымае. Дзіця гаворыць.*

*...Сын чалавечы, зямны, нябесны.*
*Люляе вечнасць матулі песню.*

Віктар ШНІП

## БАЛАДА ВЯРТАННЯ

Уладзіміру Караткевічу

*Ідуць вандроўнікі па Русі Белай,*
*Вяртаюцца да родных курганоў.*
*Над імі птушка белая ляцела,*
*Разбілася аб хмары груганоў.*

*Вандроўнікі знямоглыя, худыя,*
*Ды з верай у Айчыну у грудзях.*
*Галодны воўк услед за імі вые*
*І вецер носіць па Айчыне жах.*

*І абгарэлыя маўчаць званіцы*
*І роднай мовы не чуваць зусім.*
*Віном, крывёй гандлююць чужаніцы,*
*І па зямлі паўзе атрутны дым.*

*Самотныя, гаротныя хаціны,*
*Дурной травой парослыя палі.*
*Няўжо дамо, каб згінула Айчына?!*
*Няўжо мы горш за быдла — на зямлі?!*

*І узнялі вандроўнікі штандары*
*І ўспомнілі і годнасць, і свой род.*
*І груганоў прыцішыліся хмары,*
*Калі народ адчуў, што ён — Народ.*

*І смелыя пайшлі адной дарогай*
*Да волі, да забытых курганоў.*
*На Белай Русі нельга жыць без Бога,*
*Без мовы і за долю ваяроў.*

*І Ён ішоў наперадзе, і Хамы*
*У твар кідалі ўпотайкі глыжы,*
*І клікалі спакусліва у крамы,*
*І распіналі ў думках на крыжы.*

Змітро БУРАК

## БЕЛАРУСКАЯ МОВА

Беларуская мова, я іду да цябе
Праз дрымучы свой бор
У верасовай журбе,
У пахучым чаборы,
Незвычайным птушыным хоры.
Я іду праз свой сорам і гнеў,
Праз нявер'е людзей.
Я ад слоў тваіх
Стаў багацей, расквітнеў,
Не спынюся ў хадзе!

Слуцкі раён,
в. Гацук.

Галіна ТРУСЕВІЧ

## РОДНАЯ МОВА МАЯ...

**Родная мова мая,**
**Ты спяваеш вуснамі бабулі, —**
**Мова нашай зямлі,**
**Па якой хадзіў мой прадзед.**
**Чую песню тваю,**
**Калі рана ўстаю,**
**Калі золкам кароў выганяю,**
**Калі кветкай усміхаюся маю.**
**Пяшчотна ты льешся ў хвалях —**
**Узорах, сатканых кроснамі,**
**Васількамі ўзіраешся ў далі,**
**Абмываеш мне ногі росамі.**

Слуцкі раён,
в. Гацук.

Наташа БЕРАСТАВА

## МОЙ ЛЮБЫ КРАЙ

Мой любы край, цябе я сэрцам чую
Ў птушынай песні, ў звоне ручаін,
у пошуме зялёнае лістоты
І у напеве жартаўніц-жанчын.
Мой любы край, цябе я сэрцам бачу
У майскай белай квецені садоў,
У чыстым небе, у жытнёвым полі,
І ў пяшчоце мірных галубоў.
Мой любы край, цябе я так малюю:
Зялёнай фарбай — летнія лугі,
Блакітнай — хвалі возера ляснога
І жоўтай — хуткай рэчкі берагі.
Мой любы край, табою ганаруся —
Абшарам роднай сэрцу Беларусі.

г. Мінск, СШ № 71.

Людміла БАГДАНЕЦ

## СПЯВАЕ ДАНЧЫК

Мы гутарку спынілі на паўслове,
І тата пакруціў бялявы вус:
На мілагучнай беларускай мове
Спяваў амерыканскі беларус.
Нібы жаўрук над зарунелым полем,
Адолеўшы ў вясну нялёгкі шлях,
Спяваў так чыста, мякка, што міжволі
Заслухаліся людзі і зямля.
Спявай, Багдан, спявай, далёкі браце,
І ведай, што ад голасу твайго
Святочна і прыгожа стала ў хаце,
І вольна, як рацэ без берагоў.
Хай абмінуць цябе ў жыцці няўдачы,
Хай лёс твой не маркоціцца ў журбе.
За мову і за голас твой юначы,
За песні шчыра дзякуем табе.

вучаніца 8-га класа
Палескай СШ
Лунінецкага раёну.

Наташа ГРЫНЦЭВІЧ

## ПОМНІЦЬ БУДУ...

Радзіма мая, як цябе я люблю!
Ніколі нідзе не забуду.
І родную вёску, і хату сваю
Вечна я помніць буду.
Помніць я буду лугі і палі,
Узгоркі, лясы і азёры.
Як не адзін чалавек на зямлі,
Ты шмат перанесла гора.
Многім багата старонка мая —
Песнямі, славаю,
Нетрамі, сонцам.
Для нас, Беларусь, ты — адна сям'я.
Мы ўсе — тваё абаронцы!

Дзятлаўскі раён,
в. Лявонавічы.

Падборку падрыхтаваў да друку Мікола ЧАРНЯЎСКІ.

## ВІНШУЕМ З УЗНАГАРОДАЮ МЕДАЛЁМ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

Вярхоўны Савет БССР узнагародзіў медалямі Францішка Скарыны спадароў Льва Шакуна, Івана Шамякіна, Віктара Шматава. Рэспубліканская Рада Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны і рэдакцыя «Нашага слова» шчыра віншуе спадароў з высокай узнагародаю.

## ДАВАЙЦЕ ДАПАМОЖАМ

Не так даўно ў рэдакцыю «Нашага Слова» і ў Рэспубліканскую Раду Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны прыйшоў ліст з Беластоку. Рэдакцыя штотыднёвіка «Ніва», які выпускаюць беларусы Беласточчыны, кліча ўсіх нас на дапамогу.

«Ад імя рэдакцыйнага калектыву звяртаюся да Вас з просьбай дапамагчы нашаму тыднёвіку вярнуцца на беларускі чытацкі рынак.

Летам 1988 г. было дазволена падпісвацца на «Ніву» у БССР і прадаваць яе там у кіёсках. На працягу паўтара года з'явілася ў нас больш 2 тысячы новых чытачоў. З лістоў, якія сталі прыходзіць з Беларусі, вынікала, што наш часопіс сустракаецца з прыхільнасцю з іх боку.

Пачынаючы ад 1 красавіка 1990 г. «Ніва», не па нашай віне, зноў не трапляе на Беларусь. Экспарт усіх польскіх выданняў быў устрыманы фірмай «Ars Polona» у сувязі з ўзростам цэн у Польшчы. Савецкай фірме «Международная книга» былі прапанаваны новыя цэннікі. Да сённяшняга дня справа падпіскі яшчэ не вырашана. У «Ars Polona» інфармуюць, што «Международная книга» не дае заказаў. Нам вядома, што «Ніва» не ўключана ў каталог замежных выданняў, на якія можна надпісацца ў Беларусі на 1991 г. Дайшлі да нас чуткі, што «Саюздрук» вяртае падпісчыкам «Нівы» грошы за 1990 г. з прыпіскай «газета закрыта с 1 апреля».

Зараз наш тыднёвік выдаецца Галоўным праўленнем Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку, якое можа стаць партнёрам «Саюздруку» ці іншай фірме, якая магла б заняцца распаўсюджваннем «Нівы» ў Беларусі. Калі б наладзіць непасрэднае супрацоўніцтва Мінска і Беластока, а адкінуць пасрэдніцтва фірмаў з Варшавы і Масквы, тады напэўна панізіўся б кошт падпіскі і выдатна скараціўся б тэрмін пастаўкі газеты.

У такой сітуацыі просім сардэчна Вас зацікавіцца нашай сітуацыяй і, калі гэта магчыма, дапамагчы нам устанавіць кантакт з «Саюздрукам» ці падобнай установай.

З пашанай
Галоўны рэдактар
Віталь Луба».

## АБ'ЯВА

Дом адпачынку «Жураўлік» (Мядзельскі раён, узбярэжжа возера Нарач) прыме на працу:

1. Баяніста-акампаніятара.
2. Культарганізатара, які грае на скрыпцы.
3. Культарганізатара, які грае на цымбалах.

Абавязковая ўмова — валоданне беларускаю моваю.

Звяртацца да намесніка дырэктара дома адпачынку Юрася Малахоўскага або ў рэдакцыю «Нашага слова».

### ПАПРАЎКА

У жнівеньскім нумары «Нашага слова» ў спісе ахвяраванняў на справы ТБМ дапушчана памылка. Замест слоў «Кафедра беларускай мовы філфака БДУ — 100 рублёў» трэба чытаць «Кафедра беларускай літаратуры БДУ — 100 рублёў».

## ДАРАГІЯ СЯБРЫ!

**Паведамляем, што Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны дзеля ажыццяўлення мэтаў, вызначаных Статутам ТБМ па адраджэнні беларускага слова, прымае ахвяраванні ад прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый і прыватных асобаў як на Беларусі, так і ў СССР і за мяжой.**

**Наш цэнтральны рахунак 700510 у Белжылсацбанку.**

**Валютны рахунак 000700704 у Знешгандальбанку СССР.**

Рэспубліканская Рада ТБМ імя Францішка Скарыны дзякуе ахвяравальнікам.

Па ініцыятыве сяброў Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны сярод супрацоўнікаў Інстытута фізікі АН БССР праведзены збор сродкаў, якія пералічаны на рахунак 700510 у Беларускім рэспубліканскім Жылсацбанку.

У. Паўловіч — 10 руб.
А. Панявіна — 10 руб.
Л. Балоцька — 10 руб.
А. Казбярук — 5 руб.
С. Гапоненка — 10 руб.
Ю. Міхаленка — 5 руб.
В. Бусел — 5 руб.
Г. Малашкевіч — 10 руб.
У. Белы — 10 руб.
Ф. Руткоўскі — 10 руб.
М. Саскевіч — 10 руб.
А. Лазарук — 10 руб.
Г. Пашкевіч — 10 руб.

У часе адной вечарыны, што ладзілі ў Менскай школцы № 34 вучні старэйшых класаў, дзейнічаў школьны кірмаш, дзе прадаваліся рэчы, якія дзеці зрабілі сваімі рукамі. Грошы, якія атрымалі навучэнцы ад продажу — 52 рублі,— пералічаны на рахунак ТБМ імя Францішка Скарыны. Дзякуй!

## Паважаныя чытачы «Нашага слова»!

**Паведамляем вам, што з 1991 г. бюлетэнь Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны ўключаны ў Каталог перыядычных выданняў СССР, індэкс 74975. Выпісаць «Наша слова» можна ў арганізацыях «Саюздруку» або ў любым аддзяленні сувязі СССР. Выходзіць штомесяц, падпісная цана на год — 2 руб. 40 кап.**

**Выпісвайце і чытайце «Наша слова»! Дасылайце на адрас рэдкалегіі допісы, артыкулы і іншыя матэрыялы, звязаныя з адраджэннем беларускай мовы, нацыянальнай культуры і гістарычнай спадчыны.**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:**

**Рэдактар Ніл Гілевіч.**

**Сябры калегіі: Янка Брыль, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Ігар Лапцёнак, Генадзь Мацур, Зьміцер Санько, Мікола Супрановіч, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш (нам. рэдактара), Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун.**

**Адказны сакратар Лявон Вашко.**



Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэлефон рэдакцыі 33-25-11

Бюлетэнь выходзіць раз на месяц. Выданне безганарарнае.

МВПА імя Якуба Коласа. Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка». Наклад 10 000 паасобнікаў. Заказ 2180. Індэкс 74975.